ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№8 (113) жнівень 2020 год
CATHOLICNEWS.BY

# Зварот Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча

## ў сувязі са складанай грамадска-палітычнай сітуацыяй у Беларусі



**Браты і сёстры, суайчыннікі!**

У апошнія дні мы сталі сведкамі нябачанай дагэтуль у нашай міралюбнай і памяркоўнай Бацькаўшчыне напружанасці, звязанай з ходам выбарчай кампаніі і прэзідэнцкімі выбарамі, якая вылілася на вуліцы і плошчы нашых гарадоў. Адбыліся сутыкненні паміж грамадзянамі і супрацоўнікамі сілавых структур. У выніку актыўнага супрацьстаяння ўжо, на жаль, праліласся першая кроў і ёсць пацярпелыя з абодвух бакоў. Упершыню ў сучаснай гісторыі Беларусі брат падняў руку на брата.

Чаму мы, народ з больш як тысячагадовай гісторыяй хрысціянства, сёння як быццам забыліся пра любоў да бліжняга і ўласцівую нам з даўніх часоў талерантнасць у адносінах да іншадумцаў? Чаму на нашай святой зямлі паўтараецца біблейская гісторыя сумнавядомага Каіна, які забіў свайго брата Абэля?

У гэты лёсавызначальны момант нашай гісторыі ў імя Бога бязмежнай міласэрнасці, любові і супакою я звяртаюся да ўсіх бакоў канфлікту з заклікам спыніць насілле. Няхай вашыя рукі, створаныя для мірнай працы і братэрскага прывітання, не падымаюць ні зброі, ані камення. Няхай замест аргументу сілы запануе заснаваная на дыялогу ў праўдзе і ўзаемнай любові сіла аргументу.

З даўніх часоў наш народ вырашаў складаныя пытанні на агульных сходах, якія ў старажытных славянаў называліся вечам. З улікам гэтага каштоўнага вопыту, дзеля хутчэйшага пераадолення крызісу ў грамадстве і спынення насілля прапаную неадкладна склікаць адмысловы круглы стол, каб за ім, а не на барыкадах, вырашаць далейшы лёс нашай Бацькаўшчыны.

Заахвочваю ўсіх людзей добрай волі да трывалай малітвы аб міры і згодзе ў нашай краіне.

***Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч***
***Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі***
***Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі***
*Мінск, 11 жніўня 2020 г.*
*catholic.by*

# Зварот Біскупа Віцебскага Алега Буткевіча з нагоды масавых пратэстаў у краіне

**Дарагія браты і сёстры ў Хрысце, шаноўныя суайчыннікі!**

“Шукайце найперш Валадарства Божага і справядлівасці ягонай, а ўсё [астатняе] дадасца вам “ (Мц 6,33).

Наша краіна перажывае не самы лёгкі час сваёй гісторыі. Чарговыя выбары выклікалі ў нашым грамадстве крызіс, у які вылілася напружанасць перадвыбарчай кампаніі і, усё ж такі, не цалкам карэктны падлік галасоў. Аднак кожны крызіс побач з балючасцю яго працэсу заўсёды хавае ў сабе пазітыўны патэнцыял зменаў на лепшае. Як яго раскрыць? Напэўна, гэта не адбудзецца на шляху гвалту і нянавісці. Пабудаваныя на крыві сістэмы ў гісторыі ніколі не былі трывалымі, а Справядлівасць заўсёды вяртала здзейсненае тым, хто пераступаў усялякія людскія (не кажучы ўжо пра Божыя!) нормы.

Таму выйсце толькі адно - трэба шукаць праўду! Гэта важна, каб быць пэўным што абараняю менавіта праўду, а не падман. І трэба ведаць, што праўды напэўна не будзе там, дзе ёсць гвалт. Трэба размаўляць і мець добрую волю пачуць адно аднаго! Калі хочам будаваць цывілізаваную краіну, то і сродкі вырашэння канфліктаў у нас няхай будуць цывілізаваныя. Няхай Бог будзе нам у гэтым дапамогай, бо Ён ведае, што дабро заўсёды мацнейшае за зло. Варта, каб кожны з нас сёння пра гэта памятаў.

Зразумела, што мы не жывем у ідэальным свеце. І ніхто не жыве ў ім, але заўсёды можна даць шанец разважлівасці і здароваму розуму. Заўсёды! Да гэтай разважлівасці заклікаю сёння кожнага, хто жыве ў Беларусі. Як вядома, эмоцыі нікому і ніколі не былі яшчэ добрым дарадчыкам, а вось ахвяры яны могуць сабраць шматлікія. Гэтага ні ў якім выпадку нельга дапусціць!

Таму скіроўваю гарачую просьбу да ўсіх веруючых людзей, перадусім да католікаў, аб малітве за нашу краіну. Мы маем вельмі дзейсную “зброю” на такія сітуацыі - Ружанец. Неаднойчы гэтая малітва ратавала людзей і цэлыя краіны ў цяжкія хвіліны, няхай і нам з’яднае сёння Божую дапамогу і падтрымку. Заахвочваю маліцца прынамсі адной таямніцай Ружанца ў дзень у інтэнцыі мірнага вырашэння складанай сітуацыі у нашай краіне, а таксама ахвяраваць у гэтай інтэнцыі пост! Даручым заступніцтву Багародзіцы, нашай Маці, а таксама Святому Арханёлу Міхалу наш сённяшні дзень і нашую будучыню!

Маці Міласэрнасці, Маці Надзеі, Прытулак грэшных, маліся за нас!



***З малітвай і***
***дарам Божага благаслаўлення***
***+Алег Буткевіч***
***Біскуп Віцебскі***

# Папа наведаў дзяцей, якія праводзяць канікулы ў Ватыкане



**Раніцай 20 ліпеня Святы Айцец нечакана для ўсіх наведаў удзельнікаў дзіцячага летніка, арганізаванага непасрэдна на тэрыторыі Ватыкана.**

З 6 па 31 ліпеня дзеці супрацоўнікаў Святога Пасаду праводзяць канікулы ў Ватыкане. Іх запрасіў Папа, імкнучыся такім чынам дапамагчы бацькам, вымушаным на працягу некалькіх месяцаў трымаць дзяцей дома падчас пандэміі каранавірусу.

У праекце: "Дзеці – канікулы", які рэалізуе ватыканскі Губернатарат у супрацоўніцтве з салезіянамі і валанцёрамі, удзельнічае каля ста падлеткаў ва ўзросце ад 5 да 14 гадоў.

На працягу ліпеня некалькі аб'ектаў Ватыкана сталі дзіцячым летнікам: у Зале Паўла VI, Ватыканскіх садах і на верталётнай пляцоўцы праводзяцца розныя мерапрыемствы. Усё робіцца ў дакладнай адпаведнасці з пратаколамі бяспекі, звязанымі з пагрозай COVID-19.

Тое, што аднойчы Святы Айцец далучыцца да вясёлай кампаніі, чакалася, але ніхто не ведаў, калі гэта можа адбыцца. Таму не ўсе паверылі ўбачанаму.

Францішак прыйшоў у Залу Паўла VI падчас сняданку. Тут арганізавана часовая сталоўка. Пантыфік спыніўся ля кожнага стала, размаўляючы з дзецьмі і адказваючы на іх пытанні. Ён таксама наведаў пляцоўку для гульняў, размешчаную ўнутры Залы.

Крыху пазней, седзячы з дзецьмі, Папа заклікаў іх заводзіць новых сяброў. "Людзі, якія ўмеюць весяліцца толькі ў адзіночку, эгаістычныя. Вы павінны быць разам, з сябрамі, каб добра бавіць час", – сказаў ім Францішак.

"Ён пахадзіў паміж сталамі, крыху паразмаўляў з самымі маленькімі, а потым і са школьнікамі пачатковых і старэйшых класаў. Яго цікавіла, што яны робяць, як яны праводзяць дзень, ці задаволеныя яны", – распавёў каардынатар летніка кс. Франка Фантана, капелан Ватыканскай жандармерыі і Ватыканскіх музеяў.

"Дзеці былі настолькі ўзрушаныя, што наступіла глыбокая цішыня. Калі Папа адышоў, мы пайшлі ў Залу Паўла VI і працягнулі рабіць тое, што робім кожную раніцу, нічога не мяняючы ў звычайным парадку. Гэта было жаданне Францішка", – дадаў салезіянін.

Святар адзначыў, што трое ўдзельнікаў летніка задалі свае пытанні, падрыхтаваныя загадзя. Адна дзяўчына спытала, што робіць Папа на працягу дня, на што ён адказаў: паколькі з'яўляецца святаром, то і робіць тое ж, што і ўсе святары. Яшчэ адна дзяўчынка ўзгадала свайго дзядулю і спытала, ці рай сапраўды такі, якім ён яго ўяўляе. Калі для яго гэта прыгожае месца, шчаслівае і мірнае, тады так і ёсць, запэўніў Святы Айцец. А на пытанне, што яму больш за ўсё падабаецца ў папскім служэнні, Пантыфік адказаў, што сустракацца з дзецьмі.

На заканчэнне Святы Айцец асабіста шчыра падзякаваў кожнаму з 22 аніматараў і пасля сумеснага фота вярнуўся пешшу ў Дом св. Марты.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Папа прызначыў дапаможнага біскупа для дыяцэзіі ў Маскве



**Пантыфік 30 ліпеня прызначыў дапаможнага біскупа архідыяцэзіі Маці Божай у Маскве. Ім стаў а. Мікалай Дубінін з Генеральнай кустодыі ордэна канвентуальных францішканаў у Расіі.**

Новы біскуп нарадзіўся 27 мая 1973 г. у Навашахцінску, у Растоўскай вобласці на поўдні Расіі. Праходзіў манаскую фармацыю ў Польшчы. Вечныя шлюбы склаў 3 кастрычніка 1998 г. Святарскае пасвячэнне атрымаў 24 чэрвеня 2000 г. У 2002-2005 гг. праходзіў навучанне ў Інстытуце душпастырскай літургіі Санта-Джусціна ў італьянскай Падуі.

Мансеньёр Дубінін з 2005 г. па 2018 г. быў кустодам Генеральнай кустодыі св. Францішка Асізскага ордэна канвентуальных францішканаў. З 2005 г. з'яўляецца дырэктарам Францішканскага выдавецтва ў Маскве. З 2006 г. – выкладчыкам літургіі і гамілетыкі ў Каталіцкай семінарыі Марыя – Каралева Апосталаў у Санкт-Пецярбургу і сакратаром Камісіі па літургіі пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Расіі. З 2008 г. па 2013 г. працаваў намеснікам галоўнага рэдактара Рускай каталіцкай энцыклапедыі. З 2009 г. з'яўляецца старшынёй Расійскай канферэнцыі вышэйшых настаяцелей (CORSUM). З 2015 г. узначальвае Архідыяцэзіяльную камісію па катэхезе і літургіі. Размаўляе на рускай, польскай і італьянскай мовах, ведае англійскую і беларускую.

Мікалай Дубінін стаў першым дапаможным біскупам у Каталіцкім Касцёле ў Расійскай Федэрацыі пасля яго адраджэння.

Цяпер Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Расіі складаецца з пяці іерархаў. Апрача біскупа Мікалая Дубініна ў яе ўваходзяць: біскуп Іосіф Верт SJ, пастыр Праабражэнскай дыяцэзіі ў Новасібірску; біскуп Клеменс Пікель, пастыр дыяцэзіі св. Клімента ў Саратаве; біскуп Кірыл Клімовіч, пастыр дыяцэзіі св. Юзафа ў Іркуцку; арцыбіскуп Павел Пецы, пастыр архідыяцэзіі Маці Божай у Маскве.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



# Апостальская Сталіца: добраахвотнае ахвяраванне, а не плата за Імшу

**У Касцёле абмяркоўваюць новую ватыканскую інструкцыю адносна арганізацыі жыцця ў парафіях. Асаблівую ўвагу прыцягнула пытанне "імшальных інтэнцый".**

У дакуменце выкарыстоўваюцца словы "ахвяраванне", "добраахвотнае ахвяраванне", а не "плата". Францішак неаднаразова падкрэсліваў, што святары не павінны патрабаваць грошы за цэлебрацыю Эўхарыстыі. "За св. Імшу не плацяць! Святая Імша – гэта ахвяра Хрыста, якая была складзена бязвыплатна. Адкупленне – бязвыплатнае. Калі хочаш скласці ахвяру – рабі гэта, але за Імшу не плацяць", – сказаў Папа падчас агульнай аўдыенцыі 7 сакавіка 2018 г.

У інструкцыі, распаўсюджанай у панядзелак, гаворыцца, што "ахвяра па сваёй прыродзе павінна быць добраахвотным актам з боку ахвярадаўцы, памер якой пакідаецца яго сумленню і пачуццю адказнасці за Касцёл, а не ўстаноўленай "цаной", "абавязковым тарыфам", "сакрамантальным падаткам".

Акрамя таго, "важна выхоўваць вернікаў, каб яны ахвотна садзейнічалі задавальненню патрэбаў парафіі, якія з'яўляюцца "іх справай", і каб яны вучыліся вырашаць іх самастойна, асабліва ў краінах, дзе ахвяры на св. Імшу па-ранейшаму з'яўляюцца адзінай крыніцай утрымання для святароў і адным з матэрыяльных сродкаў, неабходных для евангелізацыі".

Было адзначана, што варта строга сачыць за тым, каб ахвяраванне на Імшу не ператваралася ў "здзелку" ці "гандаль". Святарам настойліва рэкамендавана цэлебраваць Эўхарыстыю, нават не атрымаўшы грошай ад вернікаў, асабліва бедных.

Трэба заўважыць, што некаторыя касцельныя правінцыі вызначаюць памер ахвяры на св. Імшу. Там многія святары адмаўляюцца ад грошай і прызначаюць іх на дабрачыннасць і грамадскія праекты. У шматлікіх іншых мясцовых Касцёлах, у тым ліку ва Усходняй Еўропе, імшальныя інтэнцыі з'яўляюцца практычна адзіным сродкам утрымання для святара і рэалізацыі душпастырскіх ініцыятыў.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Святы Пасад нагадаў
## пра непарушнасць формулы хросту

**Кангрэгацыя Веравучэння абнародавала дактрынальнае ўдакладненне адносна недапушчальнасці адвольных відазмяненняў трынітарнай формулы хросту: "Я цябе хрышчу ў імя Айца, і Сына, і Духа Святога".**

Дакумент "Аб змяненні сакрамантальнай формулы хросту", зацверджаны Папам Францішкам 8 чэрвеня 2020 г. і афіцыйна абнародаваны 6 жніўня 2020 г., быў распрацаваны ў адказ на звесткі пра выпадкі ўжывання падчас хросту зменеnай формулы накшталт "Мы цябе хрысцім у імя Айца, і Сына, і Духа Святога" або "Ад імя таты і мамы, хроснага і хроснай, дзядуль і бабуль, родных, сяброў, ад імя супольнасці мы цябе хрысцім у імя Айца, і Сына, і Духа Святога".

У дакуменце сцвярджаецца, што сакрамант хросту, удзелены з выкарыстаннем адвольна змененых формул, з'яўляецца несапраўдным, а ўсе, хто яго атрымаў у такім выглядзе, павінны паўтарыць абрад паводле літургічных нормаў, зацверджаных Касцёлам.

У дакуменце адзначаецца, што "наўмыснае змяненне сакрамантальнай формулы" тлумачылася жаданнем "падкрэсліць аб'яднальную каштоўнасць хросту, паказаць удзел сям'і і прысутных і пазбегнуць ідэі сканцэнтравання сакрамантальнай улады ў асобе святара на шкоду бацькоў і супольнасці". Мела месца і душпастырскае абгрунтаванне "сумніўнага характару", якое "часта хавала, нават і несвядома, схільнасць да суб'ектывізму і жаданне маніпулявання".

На самай жа справе, нагадвае дакумент, спасылаючыся на Канстытуцыю аб святой Літургіі "Sacrosantum Concilium" Другога Ватыканскага Сабору, "калі нехта ўдзяляе хрост, то хрысціць сам Хрыстус" (SC 7), гэта Ён з'яўляецца "галоўнай Асобай дзеяння, якое цэлебруецца". Канешне, у цэлебрацыі "бацькі, хросныя і ўся супольнасць пакліканы выконваць актыўную ролю, сапраўдную літургічную паслугу", аднак гэта, згодна з саборным дакументам, падразумявае, што "кожны, духоўны ці свецкі, выконваючы свой абавязак, павінен рабіць выключна і цалкам тое, што датычыць яго паводле самой прыроды прадмета і літургічных нормаў (SC 28)".

Другі Ватыканскі Сабор, следам за Трыдэнцкім Саборам, пастанавіў, што "нікому іншаму, нават калі гэта святар, нельга самастойна нічога дадаваць, адымаць ці змяняць у Літургіі" (SC 22).

"Змяненне па ўласнай ініцыятыве формы ўдзялення сакраманту з'яўляецца не проста літургічным злоўжываннем, як у выпадку парушэння зацверджанай нормы, але ранай, нанесенай адначасова касцельнай супольнасці і распазнавальнасці дзеяння Хрыста, што ў найбольш сур'ёзных выпадках робіць несапраўдным сам сакрамант, таму што прырода літургічнага дзеяння патрабуе вернай перадачы таго, што было атрымана", перасцерагае Кангрэгацыя Веравучэння.

Падчас удзялення сакрамантаў супольнасць вернікаў дзейнічае "не калегіяльна", але "міністэрыяльна", "паколькі ніводная група не можа быць сама па сабе Касцёлам, але становіцца Касцёлам дзякуючы пакліканню, якое не можа ўзнікнуць унутры самой супольнасці".

Цэлебрант, у сваю чаргу, "не прамаўляе як службовая асоба, якая выконвае ўскладзеную на яе ролю, але дзейнічае міністэрыяльна як прысутны знак Хрыста, які дзейнічае ў Яго Целе, дорачы сваю ласку".

У гэтым святле "трэба разумець трыдэнцкі наказ адносна неабходнасці таго, каб духоўная асоба мела намер здзейсніць тое, што здзяйсняе Касцёл: намер, які не можа заставацца "толькі на ўнутраным узроўні", падлягаючы рызыцы суб'ектывізму, але выяўляецца таксама ў "знешнім дзеянні", якое ажыццяўляецца "не ад ласнага імя, але ў асобе Хрыста", тлумачыць дакумент.



Падкрэсліваецца, што скажаць сакрамантальную формулу – значыць не разумець саму прыроду касцельнага служэння, якое заўсёды ёсць службай Богу і Яго народу. "Такім чынам, у кожным распарадчыку хросту павінны быць укаранёныя не толькі ўсведамленне абавязку дзейнічаць у касцельным адзінстве, але і пераканаласць, характэрная, паводле св. Аўгусціна, Прадвесніку, каторы "зразумеў, што ў Хрысце заключана такая ўласцівасць, якая чыніць, што, нягледзячы на мноства служыцеляў, святых або грэшнікаў, якія ўдзяляюць хрост, святасць хросту суадносіцца выключна з Тым, пра якога было сказана: "Той ёсць тым, хто хрысціць Духам Святым" (Ян 1, 33)".

Такім чынам, распарадчык хросту не толькі не мае паўнамоцтваў выкарыстоўваць сакрамантальную формулу па ўласным меркаванні, але таксама не можа казаць, што ўдзяляе сакрамант ад імя бацькоў, родных, сяброў ці ўсёй супольнасці вернікаў.

Змяненне формулы хросту супярэчыць прыродзе касцельнага служэння, бо ўспрымаецца не як служэнне, але як улада, здольная маніпуляваць тым, што было даручана Касцёлу, падсумоўвае Кангрэгацыя Веравучэння.

У 2008 г. Кангрэгацыя Веравучэння ўжо адказвала на два пытанні адносна сапраўднасці абрадаў хросту, праведзеных з выкарыстаннем адвольна змененых формул: "Я хрышчу цябе ў імя Стваральніка, і Адкупіцеля, і Асвяціцеля" і "Я хрышчу цябе ў імя Стваральніка, і Вызваліцеля, і Суцяшальніка".

Пазіцыя Кангрэгацыі была нязменнай: такі хрост з'яўляецца несапраўдным, а ўсе ахрышчаныя паводле такіх формул павінны паўтарыць абрад паводле літургічных норм.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Выбух у Бейруце:
## 15 святароў і 15 цудаў

**"У нас было 15 святароў і 15 цудаў!" – вось так каментуе айцец Зіад Хадад падзеі ў кляштары айцоўмісіянераў у Бейруце падчас выбуху ў порце ў аўторак, 4 жніўня. Паводле яго слоў, манахі цудам не загінулі.**



Кляштар знаходзіцца прыблізна за кіламетр ад месца выбуху. Выбуховая хваля знішчыла вокны ў доме і параніла трох манахаў, але не смяротна. Святар, які адпраўляў Імшу, транслюючы яе ў Фэйсбуку, падчас выбуху атрымаў лёгкае раненне, нягледзячы на тое, што яго выбуховай хваляй адкінула на шэсць метраў ад алтара.

Тым часам у суседнім кляштары сясцёр-шарытак адна манахіня загінула, а сотні навакольных дамоў былі знішчаныя.

Нагадаем, у аўторак, 4 жніўня, У Бейруце адбыліся два магутныя выбухі. Больш за 100 чалавек загінулі, каля 4000 атрымалі раненні. Амаль увесь горад быў разбураны. Па прыблізных падліках каля 300 000 чалавек засталіся бяздомнымі. Каталіцкія касцёлы, кляштары і школы ў Бейруце прымаюць ахвяраў выбуху.

Улады абвясцілі трохдзённую жалобу. Ліванскія хрысціянскія лідары звярнуліся да вернікаў ва ўсім свеце з просьбай пра малітву. Сусветныя лідары і Папа Францішак выказалі спачуванне ліванскаму народу.

*Паводле матэрыялаў credo.pro*

# Мексіка: хворая на COVID-19 жанчына прыступіла да Першай Святой Камуніі

**«Наведваючы ў канцы чэрвеня пацыентаў у Мексіканскім шпіталі ў Халіска, а. Хасэ Луіс пазнаёміўся з хворай жанчынай, якая пажадала прыступіць да Першай Святой Камуніі.**

Прыняўшы яе споведзь, святар вырашыў выканаць гэтую просьбу.

«Гэта цудоўнае перажыванне, бальзам любові для хворых!» Такімі словамі мексіканскі святар Хасэ Луіс Гансалес Сантаскай апісаў на Фэйсбуку тое, што адбылося пад канец чэрвеня ў шпіталі ў Халіска (Мексіка). Ён удзяліў Першую Камунію пажылой жанчыне, якая хварэе на каранавірус. Гэтая падзея распаліла яго сэрца ў той час, калі свет вакол быў нібы паралізаваны пандэміяй.

«Некалькі тыдняў таму, наведваючы з групай святароў пацыентаў бальніцы ў Халіска, я апынуўся ў аддзяленні, дзе знаходзіліся хворыя на каранавірус. Там я пазнаёміўся з пажылой жанчынай, якой прапанаваў споведзь. Яна адказала, што не можа гэтага зрабіць, паколькі па розных прычынах так і не прыступіла да Першай Камуніі, але вельмі прагне гэтага», – распавёў а. Хасэ Луіс журналісту газеты «Desde la Fe».



Пасля кароткай размовы з пацыенткай святар прызнаў, што яе імкненне шчырае і глыбокае. Таму яны разам вырашылі, што ён вернецца ў лякарню праз некалькі дзён, каб жанчына магла прыняць Першую Камунію. Фотаздымкі гэтага дня, якія айцец Луіс размясціў у сацыяльнай сетцы Фэйсбук, цалкам красамоўныя. Сам святар дадае: «Пасля камуніі мы пэўны час размаўлялі. А потым жанчына мне сказала: «Ойча, я адчуваю сябе такой спакойнай, што прыняла Хрыста ў сэрца!»

Гэта сапраўды кранальнае сведчанне сілы сакраманту і той надзеі, якую ён нараджае ў кожным сэрцы!

*pl.aleteia.org*

# Айцец Максімільян –




*– Хороший гешефт: за святую фигурку – и такой кусок! Ловкий пройдоха этот Кольбе!*

*– Нет, всё что угодно, но не пройдоха!*

*– Тогда что, наивный?*

*– Наивный? Нет, тоже нет.*

*– Может быть, нахальный?*

*– Нет, я думаю, он был просто верующий. По-настоящему верующий, и потому так действовал на людей.*

***Дыялог з фільма "Жизнь за жизнь" К. Занусі ("Życie za życie", 1991)***

Сёння я хачу расказаць табе, мой паважаны чытач, пра чалавека, жыццё і справа якога калісьці кранулі мяне да глыбіні душы. Гэта каталіцкі святар з ордэна францішканаў, заснавальнік апостальскага таварыства "Рыцарства Беззаганнай" (Militia Immaculatae) і рэлігійнага часопіса "Рыцар Беззаганнай". Чалавек, які прысвяціў сваё жыццё навяртанню да Бога грэшнікаў і ворагаў Касцёла праз заступніцтва Панны Марыі. Выдавец, місіянер, заснавальнік двух кляштараў, што дзейнічаюць і сёння, вязень Асвенцыма і мучанік любові. Мужчына, каторы захацеў жыць, працаваць, пакутаваць, вынішчаць сябе і паміраць толькі дзеля адной жанчыны – Найсвяцейшай Дзевы, Беззаганнай Маці, Багародзіцы Панны Марыі.



Раймунд Кольбэ нарадзіўся ў 1894 годзе ў польскім горадзе Здуньска Воля (тэрыторыя Расійскай Імперыі ў той час) у сям'і Юліуша і Марыі Кольбэ. Гэта была небагатая працоўная сям'я, якая вызначалася пабожнасцю і патрыятызмам.

Марыя ў юнацтве хацела прысвяціць сваё жыццё Богу, але на тэрыторыі ўсходняй Польшчы, анексаванай Расіяй, не было дзейных кляштараў. Малады ткач Юліуш быў добрым каталікам, вясёлым, шчодрым, жыццерадасным чалавекам. Марыя і Юліуш пазнаёміліся ў касцёле. Яны ўзялі шлюб у кастрычніку 1891 года, а праз год нарадзіўся першы сын – Францішак. Маладыя бацькі выбралі гэтае імя невыпадкова: Марыя з дзяцінства шанавала св. Францішка Асізскага, а пасля шлюбу разам з Юліушам уступіла ў Трэці францішканскі ордэн.

Праз два гады – халоднай студзеньскай раніцай 1894 года – у Марыі і Юліуша нарадзіўся Раймунд.

Тым часам фінансавае становішча сям'і пагоршылася. Здуньска Воля не мела патрэбы ў вялікай колькасці тканіны, таму Кольбэ пераязджаюць у Лодзь. Там у студзені 1896 года нарадзіўся трэці сын – Юзэф. Праз некаторы час сям'я перабралася ў Паб'яніцы, дзе Юліушу ўдалося адкрыць уласную харчовую краму. Спачатку гандаль ішоў добра, але гаспадар меў мяккі характар і часта адпускаў прадукты ў крэдыт, што хутка прывяло да банкруцтва.

У Паб'яніцах Марыя з дазволу мясцовага лекара займалася акушэрствам і часта адмаўлялася браць грошы за свае паслугі. Там яна нарадзіла яшчэ двух сыноў – Валянціна і Антонія, якія, аднак, памерлі ў дзіцячым узросце. Пасля смерці хлопчыкаў Марыя стала больш маўклівай і стрыманай, апраналася ў чорнае і кожную вольную хвіліну прысвячала малітве і чытанню Бібліі.

Раймунд падзяляў лёс сваёй сям'і да 14-гадовага ўзросту. Затым на працягу пяці гадоў навучаўся ў ніжэйшай францішканскай семінарыі ў Львове (паступіў туды разам са старэйшым братам Францішкам). У 1910 годзе прынёс першыя манаскія шлюбы і атрымаў імя Максімільян, а ў 1914 годзе склаў вечныя шлюбы і ўзяў другое імя – Марыя – у знак глыбокай пашаны да Багародзіцы.

З кастрычніка 1912 года вучыўся ў Рыме, дзе атрымаў навуковыя ступені доктара філасофіі і доктара тэалогіі. Падчас вучобы ў Вечным горадзе ў бр. Максімільяна сталі праяўляцца сімптомы сухотаў.

Святарскае пасвячэнне ён атрымаў у красавіку 1918 года, а першую св. Імшу адправіў у інтэнцыі Рыцарства Беззаганнай – адмысловага таварыства, створанага разам з некалькімі братамі з семінарыі ў кастрычніку 1917-га. Мэта Рыцарства – навяртанне грэшнікаў, масонаў і ератыкоў, а таксама асвячэнне ўсіх душаў праз заступніцтва і з дапамогай Беззаганнай. Галоўнай умовай дасягнення гэтай мэты для сябраў таварыства павінна быць поўнае і бязмежнае адданне сябе ў карыстанне Дзевы Марыі, каб Яна зрабіла з імі тое, што Ёй патрэбна, і праз сваіх "воінаў" уздзейнічала на іншых людзей.

У ліпені 1919 года а. Максімільян прыехаў на радзіму. Тры гады ён не меў звестак ад сям'і (нагадаю, што Еўропа толькі-толькі перажыла Першую сусветную вайну), і вось цяпер вяртаецца ў вольную Польшчу. З таго часу, калі яны з Францусем нелегальна перасеклі руска-аўстрыйскую мяжу і паступілі ў семінарыю, прайшло дванаццаць гадоў. За гэты час Францішак (брат Валерыян) пакінуў ордэн і пайшоў змагацца за незалежнасць Айчыны са зброяй у руках. У ордэн францішканаў прыйшоў малодшы брат Юзэф. Бацька і маці дамовіліся жыць у чысціні, і іх жыццёвыя шляхі разышліся. Бацька спачатку жыў у кляштары і дапамагаў пры касцёле, затым пайшоў на фронт. Маці здзейсніла юнацкую мару і стала жыць у кляштары: спачатку ў сясцёр-бенедыктынак, затым у фелiцыянак.

Раніцай 29 ліпеня 1919 года айцец Максімільян пастукаў у дзверы кракаўскага кляштара феліцыянак і спытаў, дзе яго маці. Пані Марыя Кольбэ не магла паверыць сваім вачам. "Вось я і дачакалася гэтай хвіліны!" – з хваляваннем казала яна. Айцец адправіў Імшу ў капліцы сясцёр, паразмаўляў з маці і накіраваўся на першае месца служэння – здабываць свет для Беззаганнай.

З 1920 да 1925 года айцец Максімільян жыў і працаваў у Гродне. З 1922 года пачаў выдаваць у Кракаве часопіс «Rycerz Niepokalanej» («Рыцар Беззаганнай»). Па яго ініцыятыве пад Варшавай быў пабудаваны кляштар, які атрымаў назву ў гонар Беззаганнай Панны – Непакалянаў.

У 1930 годзе а. Максімільян разам з чатырма братамі выязджае на місію ў Японію. Праз некаторы час недалёка ад г. Нагасакі ўзнік новы Непакалянаў – кляштар Мугендзай-но Сона. Там жа пачынае выдавацца японская версія часопіса "Рыцар Беззаганнай". Ужо на пачатку 1934 года наклад японскага "Рыцара" дасягнуў 60 тысяч экзэмпляраў. А гэта быў час, калі ва ўсёй Японіі налічвалася толькі каля ста тысяч каталікаў.

Айцец Максімільян марыў здабыць увесь свет для Хрыста праз Беззаганную. Таму праз некаторы час ён пакідае Японію і накіроўваецца ў Індыю. На шляху наведвае Ганконг, Сінгапур, Каломба, знаёміцца з мясцовымі місіянерамі і шукае магчымасці для прысутнасці францішканаў ва ўсіх кропках свету. Але Божы Провід не дазваляе Максімільяну разгарнуць маштабную місійную дзейнасць.

У 1936 годзе ён вымушаны вярнуцца ў Польшчу і стаць гвардыянам польскага Непакалянава. Кляштар знаходзіўся ў росквіце: колькасць братоў павялічвалася (іх было больш за 500), а наклад "Рыцара Беззаганнай" дасягнуў 700 тысяч экзэмпляраў. Акрамя асноўнага часопіса, выдаваліся "Малы часопіс" (1935–1939) і два часопісы для дзяцей і моладзі. Выданні распаўсюджваліся па ўсёй Польшчы, высылаліся ў Еўропу, Азію, Амерыку. У склад вялізнага манастырскага комплексу ўваходзілі рэдакцыя, семінарыя, радыёстанцыя, добра абсталяваная друкарня, чыгуначная станцыя, аўтастаянка, пажарная каманда, склады, шавецкія, сталярныя, слясарныя майстэрні і нават невялікі аэрадром.

Але больш чым пра абсталяванне а. Максімільян клапаціўся пра духоўнае ўзрастанне братоў, каб гэты вялікі кляштар заставаўся адной сям'ёй і быў усё больш адданы Беззаганнай. Калі хтосьці з братоў сказаў, што можна ўжо не развівацца – станкоў дастаткова, засталося толькі атрымліваць прыбытак, – а. Максімільян абурыўся: "Вось так сродак становіцца мэтай, а мэта – сродкам. Наша мэта – здабыць для Беззаганнай увесь свет і кожную душу паасобку, а не ў нябачаным прыбытку".

***

Зараз, перад самай балючай часткай біяграфіі а. Максімільяна, зраблю невялікае адступленне і распавяду, што натхніла мяне на гэтую працу. Некалькі гадоў таму я прысутнічала на выступленні францішканскага гурта "Pokój i dobro" падчас музычнай майстэрні ў Івянцы. Адна песня настолькі здзівіла і ўзрушыла мяне, што я знайшла час і перачытала ўсе даступныя мне крыніцы пра святога Максімільяна, прадумала і напісала гэты артыкул.

Спеў называўся "Modlitwa św. Maksymiliana" і пачынаўся словамі:

Dozwól mi Cię chwalić, Panno Święta. Dozwól, bym Cię kochał z całych sił. Dozwól, bym dla Ciebie żył, pracował, cierpiał. Przywiódł Ci wszystkie dusze, cały świat.

Акрамя таго, што мяне кранулі прыгожая музыка і праніклівае выкананне песні, уразілі і словы: Максімільян просіць дазволу ў Найсвяцейшай Панны, каб славіць Яе і жыць для Яе. Такога шанавання Панны Марыі, якое мяжуе з закаханасцю і шаленствам, я не сустракала ў іншых святых! Ён маліўся і ставіў фігуркі, здабываў для Беззаганнай новыя землі і адкрываў манастыры, узяў другое імя – Марыя – і карыстаўся ім, ім жа пачынаў лісты і тэлефонныя размовы.

# Рыцар Беззаганнай

У Раймунда была строгая і пабожная маці, якая мела бясспрэчны аўтарытэт у сям'і. Юліуш, весялун і непапраўны рамантык, шмат працаваў, але грошай заўсёды не хапала. Аплаціць навучанне маглі толькі старэйшаму – Францу, які, па думках бацькоў, павінен быў стаць святаром. Планавалася, што Мундэк застанецца дома і будзе дапамагаць сям'і. Знаёмы аптэкар згадзіўся вучыць хлопчыка, таму яму давялося быць удвая старанным і акуратным. Вось як апісвае Марыя Канчкоўская навучанне маленькага Раймунда: "Мама не прабачала неахайнасці. Яна казала, што літары ў яго атрымліваюцца шчарбатыя і грэх дарма псаваць паперу. Падчас чытання нельга запінацца і заікацца. Пакаранні сыпаліся на няшчаснага Мундэка, хоць ён і стараўся, як мог". А аднойчы, калі маме трэба было на працу, яна папрасіла Раймунда папілнаваць... глядзець Юзэфа. А яму так хацелася пагуляць у суседскім садзе! У той дзень каша прагарэла, каструля была сапсавана, а Юзэк запэцкаўся ў вапне. Маці, калі даведалася пра гэта, раззлавалася і з дакорам прамовіла: "Ох, Мундэк, хто з цябе вырасце?"

У душы Раймунда пасялілася горыч, якой ніколі раней не адчувалася. Яму неабходна было памаліцца, падумаць. Хлопец пайшоў у касцёл і ўкленчыў перад алтаром Найсвяцейшай Панны, але не мог маліцца, як звычайна. Яго сэрца разрывала маркота.

– Маці Божая, што з мяне атрымаецца? – шаптаў хлопчык праз слёзы.

І раптам Мундэк адчуў вялікую радасць, быццам хтосьці добры-добры пяшчотна паклаў яму руку на сэрца. Перад ім была сама Прыгажосць і Чысціня, сама Беззаганная Дзева. У руках яна трымала дзве кароны – белую і чырвоную, як кроў.

– Гэта чысціня і пакутніцтва, а затым – неба. Якую карону ты выбіраеш?



***

17 лютага 1941 года Максімільян Кольбэ быў арыштаваны гестапа і заключаны ў варшаўскую турму Павяк. У маі таго ж года яго перавялі ў Асвенцым, дзе ён стаў зняволеным нумар 16670. Эсэсаўцы пастаянна збівалі а. Максімільяна каванымі ботамі, прымушалі бегам насіць непад'ёмныя цяжары (пры тым, што ён даўно хварэў на сухоты, у яго было толькі адно лёгкае), але ён не толькі захоўваў сілу духу, але і як мог дапамагаў іншым. Нават у такіх нечалавечых умовах айцец Максімільян працягваў сваю пастырскую дзейнасць – суцяшаў, хрысціў, спавядаў, шэптам адпраўляў св. Імшу.

Айца Кольбэ прывезлі ў Асвенцым 28 мая. Ён ведаў, што маці і браты ў Непакалянаве чакаюць ад яго вестак, але ніяк не знаходзіў патрэбных слоў. Нарэшце напісаў маці некалькі радкоў, запэўніў, што ў яго ўсё добра, і папрасіў не пісаць яму, пакуль ён сам не напіша. Ліст датаваны 15 чэрвеня, напісаны па-нямецку і падпісаны свецкім імем – Кольбэ Раймунд.

У ліпені 1941 года з блока №14, у якім жыў айцец Максімільян, знік зняволены. Уцекача знайсці не ўдалося (пазней высветлілася, што той патануў у памыйнай яме). Тады намеснік каменданта лагера оберштурмфюрэр СС Карл Фрыцш адабраў дзесяць чалавек, якія павінны былі памерці галоднай смерцю. Гэтае пакаранне прымянялася для настаўлення і запалохвання зняволеных, каб больш ніхто не спрабаваў уцякаць.

Адзін з адабраных ім людзей, польскі сяржант Францішак Гаёўнічак, заплакаў і сказаў: "Няўжо я болей не ўбачу жонку і дзяцей? Што ж цяпер з імі будзе?" І тады айцец Максімільян выйшаў з шыхту і прапанаваў Фрыцшу сваё жыццё ў абмен на жыццё Гаёўнічака. Фрыцш згадзіўся на замену.

Седзячы ў смуроднай камеры і паміраючы ад голаду і абязводжвання, Кольбэ працягваў падтрымліваць таварышаў па няшчасці. Яны праводзілі час у песнях і малітвах. Праз два тыдні ён і трое іншых смяротнікаў былі яшчэ жывыя.

> **"Святы Максімільян з'яўляецца апекуном нарказалежных, палітычных зняволеных, журналістаў, радыёаматараў, вязняў і рухаў у падтрымку жыцця"**

14 жніўня 1941 года, напярэдадні свята Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, а. Максімільяну Кольбэ і яго траім таварышам была зробленая ін'екцыя фенолу, пасля чаго яны памерлі. На наступны дзень цела а. Максімільяна крэміравалі, а прах развеялі па ветры.

У 1946 годзе памерла Марыя Кольбэ, маці а. Максімільяна. Незадоўга да смерці яна перадала Непакалянаву лісты сына, якія ён дасылаў ёй на працягу трыццаці гадоў. Бацька, Юліуш Кольбэ, прапаў без вестак падчас Першай сусветнай вайны. Юзэф – брат Альфонс, правая рука а. Максімільяна, нязменны рэдактар "Рыцара Беззаганнай" – адышоў у вечнасць у 1930 годзе, яму было усяго 34 гады. Старэйшы брат а. Максімільяна Францішак, як я ўжо пісала, выйшаў з ордэна, ажаніўся, але ў сям'і шчасця не знайшоў. Пакінуў жонку, жыў у Гродне, вёў далёка не хрысціянскае жыццё. Максімільян пражыў 47 гадоў, палову жыцця змагаўся з сухотамі. У той час гэта хвароба не лячылася, хворы нават не ізаляваўся, адзінае, што маглі параіць дактары, – добрае харчаванне і спрыяльны клімат. Усю тую каласальную працу, якая апісана вышэй, а. Максімільян зрабіў нягледзячы на дрэннае самаадчуванне, часты кашаль, галаўны боль, падвышаную тэмпературу.

12 ліпеня 1947 года быў распачаты працэс беатыфікацыі айца Максімільяна Кольбэ. Збор сведчанняў працягваўся 24 гады. Сярод іх асаблівае месца займае сведчанне Францішка Гаёўнічака, выратаванага а. Максімільянам. Ён пражыў 93 гады, выгадаваў дзяцей, унукаў і праўнукаў і стаў вяшчальнікам праўды пра Асвенцым і ахвяру айца Максімільяна.

Папа Павел VI беатыфікаваў Максімільяна Марыя Кольбэ ў кастрычніку 1971 года, а Папа Ян Павел II кананізаваў яго ў 1982 годзе як мучаніка. Успамін святога – 14 жніўня, перад святам Багародзіцы, дзеля Якой ён жыў, працаваў, вынішчаў сябе і памёр. Святы Максімільян з'яўляецца апекуном наркaзалежных, палітычных зняволеных, журналістаў, радыёаматараў, вязняў і рухаў у падтрымку жыцця.

***P. S.*** Каго зацікавіла біяграфія айца Максімільяна, рэкамендую прачытаць пра яго дзве кнігі: "Святой Максимилиан" Марыі Канчкоўскай (перакладзена з польскай мовы і выдадзена братамі-францішканамі ў Маскве ў 1994 г.) і "Отец Максимилиан" праваслаўнага аўтара Аляксандры Немцінай (Выдавецтва Францішканаў, Масква, 2011 г.). Звесткі для артыкула ўзятыя з гэтых кніг, а таксама з артыкулаў у Вікіпедыі і з часопіса "Францішкане. Браты Меншыя Канвентуальныя" (Выданне Семінарыі Францішканаў у Польшчы, 2017 г.).

***Аксана Нядвецкая***

## Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Первый раз в первый класс!

**Совсем скоро наступит 1 сентября, и многие родители уже преступили к подготовке своих детей к школе.**

**Марина Ткач**, *психолог*



Но, как бы странно ни звучало, родители тоже нуждаются в подготовке «к школе», особенно когда речь идет о родителях будущего первоклассника. И первый совет будет таким: не паникуйте и будьте спокойны! Я не единожды говорила и напомню еще раз, что дети очень чувствуют эмоциональный фон родителей и достаточно быстро реагируют на любые изменения ваших эмоциональных состояний.

Этап поступления в школу, безусловно, волнительный и не будет лишен трудностей, но вы обязательно справитесь! Важно помнить, что вашему ребенку, как никогда ранее, нужны спокойные и поддерживающие его родители как основа и гарант успешной адаптации к новому жизненному этапу – этапу школьной жизни. Надеюсь, что информация, которую я дам вам сегодня, положит начало вашего спокойствия.

Под школьной адаптацией подразумевается умение ребёнка приспособиться к новому коллективу одноклассников, правилам и нормам поведений, взаимоотношениям в классе и с учителем. Замечу, что адаптация к школе проходит индивидуально и в целом может длиться от 2-3 недель до полугода. Продолжительность зависит как от личностных особенностей ребенка и степени его готовности к школьному обучению, так и от сложности школьной программы.

**Признаками успешной адаптации могут выступать:**

1. Хорошее настроение у первоклассника, когда он идет в школу и когда возвращается домой. Если он веселый и жизнерадостный, не говорит, что без школы было лучше, – это хороший знак.

2. Самостоятельное решение возникающих проблем, например, ребенок знает, где находится туалетная комната, самостоятельно переобувается и раздевается/переодевается, в случае необходимости обращается к взрослым за помощью.

3. Новые знакомые и друзья (в том числе и учитель), о которых он с удовольствием рассказывает дома.

4. Хорошее физическое состояние: крепкий сон, отсутствие частых простуд и жалоб на различного рода недомогания.

5. Интерес к учебе, когда ребенок знает, что в школе важны не перемены, а уроки. Готовность учиться, несмотря на возникающие трудности.

Думаю, многие могут мне возразить, что, ориентируясь на данные признаки, рисуется уж просто идеальная картинка. И я соглашусь с этим, но при этом отмечу, что большинство первоклашек вначале испытывает восторг от школы и активно проявляет к ней интерес. Поэтому перечень признаков на первоначальном этапе школьной жизни вполне оправдан.

Чем мягче пройдёт адаптационный период, тем благоприятней сложится школьная жизнь ребёнка, его успехи в учебе и отношения со сверстниками. Психологический настрой очень важен для первоклашек, и родителям важно помочь ребёнку безболезненно пройти этот непростой жизненный период.

И те рекомендации, которые я дам ниже, в первую очередь, направлены на поддержку ребенка в процессе привыкания к школе. Для родителей же они послужат, скорее, гарантом спокойствия и ощущения подконтрольности ситуации с появлением в их семье школьника. Ведь не зря говорят: «Спокойные родители – счастливые дети!» И мне кажется, в этом есть доля правды.

Итак, что важно сделать перед школой и когда школьные занятия начнутся?

**Обязательно соблюдать режим дня.** Если до школы у вашего ребенка не было четкого распорядка дня, то самое время этим заняться. Выспавшийся ребенок спокойнее реагирует на сложности, чувствует себя увереннее и быстрее принимает правильные решения. В первом классе (особенно в первое полугодие) целесообразно сохранить также и дневной сон. Если ребенок сильно утомляется (ведь нервная система по-разному реагирует на изменения образа жизни), позвольте ему поспать час после возвращения из школы. А для того чтобы ребенку было интереснее придерживаться установленного нового режима дня, можно сделать вместе с ним красочный плакат, где будет весело все расписано. Обязательно оставьте время для игр и любимых мультиков. Ребенок должен понимать, что школа – это не что-то трудное, а новая часть его жизни.



**Першакласнікі і іх бацькі былі запрошаны настаўнікам Мядзелец В.Г. на урок - знаёмства "Першы раз – у першы клас".** *Здымак germanovichi.sharkovschina.edu.by*

Хорошо, если утро первоклассника (да и любого ребенка) начинается с теплых слов и внимания родителей. Не стоит подгонять и торопить ребенка при сборе в школу. Если вы знаете, что ваш ребенок тяжело встает по утрам, запланируйте лишние 10-15 минут для подъема. Ведь правильно рассчитать время для сбора в школу – это задача взрослых.

**Подготовить к учению.** Как говорил советский психолог Л.А. Венгер, «быть готовым к школе – значит не только уметь читать, писать и считать. Быть готовым к школе – значит быть готовым всему этому научиться…» И с этим сложно не согласиться. Поэтому любое поощрение любознательности должно только приветствоваться. Выучите названия времен года, учите с ребенком названия животных, растений, предметов быта, определяйте их особенности и назначение, развивайте связную и грамотную речь. Учите ребенка пересказывать сказки и составлять рассказы по картинкам. Развивайте мелкую моторику рук ребенка с помощью рисования, раскрашивания, мозаики, лепки, нанизывания бусинок. В последующем это поможет легче освоить навык письма.

**Постарайтесь организовать отдельное рабочее место первоклассника.** Желательно рабочее пространство организовывать так, чтобы школьные принадлежности располагались не на расстоянии вытянутой руки. Это важный момент, так как в процессе занятий ребенку необходима двигательная активность, а если необходимые вещи будут находится далеко, это будет лишним поводом, чтобы переключиться на двигательную активность (встать, дотянуться до чего-либо, перейти в другую часть комнаты и т.д.). Ко всему прочему наличие рабочего места поспособствует лучшему осознание нового статуса – статуса школьника.

Важно, чтобы до школы у ребенка был достаточно разнообразный опыт общения с незнакомыми людьми – и взрослыми, и детьми. Давайте малышу возможность попрактиковаться в установлении новых контактов. Это может происходить в какихлибо общественных местах. Некоторые дети теряются, не имея навыка «выживания в толпе». В качестве тренировки время от времени можно взять сына или дочку с собой туда, где много людей, или проехаться в общественном транспорте.

**Учите ребенка не теряться, когда его критикуют или дразнят.** Готовьте его к тому, что в школе он может столкнуться и с негативными оценками своей работы. То есть дома важно иметь опыт и похвалы, и порицания. Главное, чтобы малыш понимал: критикуя его, вы даете оценку не его личности в целом, а конкретному поступку.

**Важно научить ребенка выражать свои потребности словами.** В школе его не поймут с полуслова или по выражению лица.

**Не пугайте школой.** Иногда родители вспоминают при ребенке, какой для них школа была ужасной. Следует помнить, что каждое ваше слово ребенок воспринимает как правду и, соответственно, в это верит. Лучше всего рассказывать позитивные истории из своей школьной жизни.

**Приучайте выполнять задания самостоятельно**, не требуя постоянного внимания и поощрения со стороны взрослого. Ведь на уроке учитель не всегда может уделить одинаковое внимание каждому ученику. Постепенно переставайте хвалить ребенка за каждый шаг в работе – хвалите за готовый результат.

**Приучайте будущего первоклашку спокойно сидеть и работать** в течение определенного времени. Включайте в распорядок дня различные занятия, при этом чередуя спокойные с подвижными, активными. Так ребенок усвоит, что есть время занятий и определенное, «шумное» время. Тогда он будет способен и в школе дождаться перемены.

Если до школы ваш ребенок не посещал какие-либо кружки и секции, то **не стоит записывать его туда** сразу после наступления школьного периода. Главная задача первоклассника – адаптироваться к школьной жизни. А всё остальное стоит ненадолго отложить.

Интересуйтесь у первоклассника не тем, как он сегодня ответил на уроке, а что интересное произошло за учебный день и что новое он узнал. Когда малыш боится, что за полученные результат (отметки в первом классе пока не ставят) его будут ругать, а не поддерживать, он будет до последнего скрывать от вас свои ошибки и неудачи. Постепенно это сформирует навык вранья.

**Не обижайтесь**, если ваш первоклассник говорит вам, что правы не вы, а учитель. Это хороший признак и нормальный процесс, когда значимость родителя снижается, а «на пьедестал» ставится учитель. Так ребенок овладевает внутренней позицией школьника, чувствует себя своим в большой школьной семье. Поэтому поддерживайте авторитет учителя и способствуйте укреплению хороших отношений между ним и ребенком.

**Не лишайте малыша возможности лишний раз полюбоваться на себя с портфелем** за спиной. Очень важно, чтобы ребенок не только примерял его, а еще и освоил пространство портфеля – все его отделения, кармашки и застежки. И тогда простой инструкции – «Здесь у тебя лежат тетрадки, а здесь карандаши» – недостаточно. Лучше, чтобы первоклассник сам определил, что и где у него будет лежать, а также потренировался несколько раз класть и доставать вещи из школьной сумки.

Надеюсь, эти несложные в выполнении рекомендации помогут вам с легкостью и радостью шагнуть навстречу яркой и интересной школьной жизни!

# «Мы прыходзім сюды, каб навучыцца прабачаць»: у Росіцы прайшлі штогадовыя ўрачыстасці





**У гэтым годзе праз пандэмію каранавірусу яны адбыліся ў скарочаным фармаце: усе падзеі прайшлі ў адзін дзень, 1 жніўня.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст*
**Леанід Юрык**, *фота*

Урачыстасці распачаліся з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту. Таксама ў гэты момант усе ахвотныя на свежым паветры маглі прыступіць да сакраманту споведзі. Адначасова у касцёле трывала ружанцовая малітва, у якой разам з вернікамі прыняў удзел і біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Святая Імша распачалася апоўдні. Напачатку айцец Чэслаў Курэчка MIC, пробашч парафіі Святой Тройцы ў Росіцы, прывітаў усіх пілігрымаў. “Мы хваляваліся, што сёлетнія ўрачыстасці праз пандэмію будзем адзначаць у вузкім коле святароў, – падзяляўся айцец Часлаў, – але вы малайцы, не пабаяліся і прыбылі ў Росіцу. Як росіцкія мучанікі ў свой час не пабаяліся паказаць прыклад веры, так і вы не пабаяліся сёння прыехаць”.

Касцёл ва ўмовах пандэміі не арганізоўваў у гэтым годзе пілігрымак, але і не забараняў індывідуальныя. Айцец Чэслаў прывітаў пяцярых пілігрымаў з Наваполацка, якія прыехалі ў Росіцу на роварах, а таксама некалькі пешых пілігрымаў, што прыйшлі з Полацка. Сярод іх быў і айцец Ілля Саўчанка з Оршы, які ў гэтым годзе прыняў святарскае пасвячэнне.

А глыбачанін Генадзь Бервячонак у адзіноце прайшоў шлях у 264 км з Барысава. Дарэчы, гэта ўжо яго другая самастойная пешая пілігрымка сёлета: месяц таму ён пешшу прайшоў з Росіцы ў Будслаў.

На росіцкую ўрачыстасць сабралася больш за дзве сотні вернікаў, якія прыехалі з розных парафій Віцебскай дыяцэзіі, былі таксама прадстаўнікі і іншых дыяцэзій Беларусі. Каталіцкую супольнасць краіны прадстаўлялі яшчэ і святары, і сёстры законныя. Літургію сваім спевам упрыгожыў хор з Мёрскай парафіі.

Біскуп Алег Буткевіч напачатку прывітаў усіх вернікаў, падзякаваў ім за прысутнасць: “Няхай заступніцтва Божай Маці нам усім дапаможа!”

У сваёй гаміліі ён звярнуў увагу на каштоўнасць чалавечага жыцця, якая злым чынам была парушаная тут, у Росіцы. Прайшло не так шмат часу, крыху больш за семдзясят гадоў. Гэта падлога яшчэ памятае слёзы і малітвы тых людзей, што сталіся ахвярамі несправядлівасці, учыненай нацыстамі, нагадаў іерарх.

– З гэтага месца людзі выходзілі на спатканне з Панам, – падкрэсліў біскуп. – Мы таксама ва ўсіх жыццёвых цяжкасцях маем спадзявацца на Бога. І прыклад росіцкіх пакутнікаў можа быць нашай падтрымкай. Будзьма годнымі іх мужнага вызнання сваёй веры! – заклікаў ардынарый.

Перад бласлаўленнем а. Вадзім Мізер зачытаў пісьмо правінцыяла марыянаў айца Тамаша Навачыка MIC, якое ён даслаў з нагоды ўрачыстасцяў у Росіцы. Айцец выказаў шкадаванне, што праз пандэмію не змог асабіста прыехаць у гэтым годзе ў Росіцу.

Пасля заканчэння Імшы адбылася працэсія да месца мучаніцкай смерці айцоў Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры. Яны прынялі мучаніцкую смерць разам са сваімі вернікамі, хаця маглі пазбегнуць гэтага. Карнікі прапаноўвалі захаваць ім жыццё, але святары да канца падзялілі лёс сваіх парафіянаў.

Мясцовыя вернікі разам з пілігрымамі памаліліся за душы замучаных тут людзей, пасля чаго біскуп Алег звярнуўся да прысутных з кароткім словам:

– Тут здзейснілася несправядлівасць у яе найвышэйшым праяўленні: забойства людзей невінаватых, – адзначыў ардынарый, – але мы прыходзім сюды не з нянавісцю, але каб навучыцца прабачаць.

Напрыканцы святары і вернікі ўшанавалі крыж, што ўсталяваны на месцы мучаніцкай смерці жыхароў Росіцы, і паставілі запаленыя знічы як знак нашай памяці.





# Мой час у турме



**У турмах ёсць шмат дабраты. Часам, напэўна, турмы могуць быць пеклам на зямлі. Мне пашчасціла знаходзіцца ў бяспецы і атрымліваць добрае абыходжанне. Я быў уражаны прафесіяналізмам турэмшчыкаў, верай зняволеных і існаваннем маральнасці нават у самых цёмных месцах.**

**Кардынал Джордж Пэл**, *прэфект Сакратарыяту па справах эканоміцы на пенсіі*

Трынаццаць месяцаў я знаходзіўся ў адзіночнай камеры: дзесяць месяцаў у следчым ізалятары Мельбурна і тры месяцы ў турме Бэрван. У Мельбурне турэмнай уніформай быў зялёны спартыўны касцюм, а ў Бэрване мне далі ярка-чырвоны кардынальскі колер. У снежні 2018 года, нягледзячы на маю невінаватасць і нязвязныя абвінавачванні Каралеўскай пракурорскай службы, мяне асудзілі за даўнія сэксуальныя злачынствы супраць дзяцей. Пазней (у красавіку гэтага года) Вярхоўны суд Аўстраліі быў вымушаны ануляваць мой прысуд адзінагалосным рашэннем.

Тым часам я пачаў адбываць свой тэрмін у шэсць гадоў. У Мельбурне я знаходзіўся ў камеры № 11 у восьмым блоку на пятым паверсе. Камера мела сем або восем метраў у даўжыню і прыблізна два метры ў шырыню: якраз дастаткова для майго цвёрдага ложка, нятоўстага матраса і дзвюх коўдраў. Злева ад уваходу былі нізкія паліцы з чайнікам і тэлевізарам і месца для прыёму ежы. Далей, праз вузкі праход, знаходзіліся рукамыйнік з халоднай і гарачай вадой і душавая кабіна з даволі гарачай вадой. У адрозненне ад многіх багатых гатэляў на сцяне над ложкам была лямпачка для чытання.

За пару месяцаў да турмы мне зрабілі аперацыю на каленях, таму я спачатку хадзіў, абапіраючыся на кіёк, а потым мне далі бальнічны вазок. І гэта было сапраўднае шчасце! Санітарныя прадпісанні патрабуюць, каб кожны зняволены штодзень праводзіў гадзіну на свежым паветры, таму ў Мельбурне ў мяне была магчымасць выходзіць два разы па паўгадзіны. У восьмым блоку нідзе не было празрыстых вокнаў, таму ў камеры я мог адрозніваць дзень ад ночы, але не больш за тое. Іншых адзінаццаць зняволеных я ніколі не бачыў.

Але, напэўна, іх чуў. Восьмы блок складаецца з дванаццаці малых камераў, размешчаных уздоўж адной знешняй сцяны. І ў адным канцы знаходзіліся "шумныя" вязні. Я сядзеў у канцы "Турак", названым так у гонар багатага прыгараду Мельбурна – дакладна ў тым самым шумным канцы, але ў цэлым там не біліся і не крычалі, там не было злых і адчайных або зруйнаваных наркотыкамі, пераважна крышталічным метамфетамінам. Я дзівіўся, чаму яны так доўга могуць біць у сцяну кулакамі, але турэмшчык растлумачыў мне, што яны, нібы коні, б'юць нагамі. Некаторыя залівалі свае камеры вадой або разводзілі бруд. Час ад часу выклікалі каманду з сабакамі або кагосьці даводзілася сунімаць слезацечным газам. У сваю першую ноч я чуў, як плача жанчына, іншы зняволены клікаў сваю маці.

Мяне ізалявалі дзеля маёй жа бяспекі, таму што асуджаных за сэксуальныя злачынствы супраць дзяцей, асабліва святароў, у турме могуць збіць або згвалтаваць. Мне падобным пагражалі толькі адзін раз, калі я знаходзіўся на адной з дзвюх спартыўных пляцовак, раздзеленых высокай сцяной, што мела праём на ўзроўні галавы. Калі я хадзіў па перыметры, хтосьці плюнуў на мяне праз сетку ў адкрытым праёме і пачаў праклінаць. Такога я не чакаў, таму, раззлаваны, вярнуўся да акна, каб сустрэцца са сваім крыўдзіцелем тварам у твар і адчытаць яго. Ён уцёк з маіх вачэй, але працягваў праклінаць мяне, называючы "чорным павуком" і іншымі далёка не прыемнымі словамі. Адказаўшы яму першы раз, я маўчаў, хоць пазней і скардзіўся, што не буду выходзіць на двор, калі гэты калега будзе на суседняй пляцоўцы. Дзесьці праз дзень адказны за блок паведаміў мне, што маладога крыўдзіцеля перавялі, таму што ён зрабіў "штосьці горшае" іншаму зняволенаму.

Некалькі разоў падчас строгай ізаляцыі з 16:30 да 7:15 мне даводзілася чуць абвінавачванні і знявагі ад іншых вязняў восьмага блока. Так, аднойчы вечарам я падслухаў гарачыя спрэчкі наконт маёй віны. Той, хто мяне абараняў, сцвярджаў, што гатовы паручыцца за чалавека, якога падтрымалі два прэм'ер-міністры. Меркаванні зняволеных наконт маёй віны або невінаватасці разыходзіліся, як і ў большай частцы аўстралійскага грамадства, хоць СМІ, за рэдкімі цудоўнымі выключэннямі, былі настаўленыя вельмі варожа. У адным лісце адрасант, які правёў у турме дзясяткі гадоў, напісаў, што ўпершыню чуе пра такога асуджанага святара, які мог бы хоць нейкую падтрымку сярод зняволеных. Трое маіх калег па трэцім блоку ў Барване ставіліся да мяне з дабрынёй і па-сяброўску. Большасць турэмшчыкаў у абедзвюх турмах лічылі, што я невінаваты.

Антыпатыя вязняў да злачынцаў у сферы сэксуальнага злоўжывання дзецьмі ў англамоўным свеце паўсюдная. Гэта цікавы прыклад таго, як натуральнае права прабіваецца праз цемру. Усе мы схільныя пагарджаць тымі, каго лічым горшымі за сябе. Нават забойцы грэбуюць тымі, хто здзяйсняе злачынствы супраць непаўналетніх. Парадаксальна, але гэтае грэбаванне не зусім і кепскае, таму што яно выражае тую веру ў існаванне правільнага і няправільнага, дабра і зла, якая нават у турмах дзіўным чынам прабіваецца на паверхню.

Раніцамі я часта чуў мусульманскія малітоўныя спевы ў восьмым блоку. Часам мусульмане былі крыху млявыя і не спявалі, хоць, магчыма, яны маліліся моўчкі. Размовы ў турме жорсткія і шматслоўныя, але я рэдка чуў праклцці і брыдкаслоўе. Адзін зняволены, у якога я спытаўся пра гэта, лічыў, што гэта знак веры, а не прыкмета Божай адсутнасці. Думаю, вязні-мусульмане, са свайго боку, брыдкаслоўя не церпяць.

Мне пісалі зняволеныя з многіх турмаў, некаторыя з іх рэгулярна. Адзін рыхтаваў алтар, калі я служыў апошнюю Імшу на Божае Нараджэнне ў турме Пентрыдж у 1996 годзе перад тым, як яе закрылі. Іншы напісаў проста, што ён згубіўся і знаходзіцца ў цемры. Ці мог бы я параіць кнігу? Я параіў яму прачытаць Евангелле ад Лукі і пачаць Першае пасланне ад Яна. Іншы быў чалавекам глыбокай веры і шанавальнікам св. Пія з П'етрэльчыны. Яму прысніўся сон, што яго выпусцяць. Аказалася, што сон быў заўчасны. Іншы напісаў мне, што сярод прафесійных злачынцаў ёсць кансэнсус, што я невінаваты і мяне "накалолі". Ён дадаў, што гэта вельмі дзіўна, бо крымінальнікі бачаць праўду, а суддзі не.

Мая праца, як і ў выпадку большасці святароў, звязана з вельмі рознымі людзьмі, таму зняволеныя мяне не вельмі здзівілі. Сюрпрызам сталі турэмшчыкі, прычым сюрпрызам прыемным. Некаторыя паводзілі сябе па-сяброўску, адзін ці два былі настаўленыя, хутчэй, варожа, але ўсе былі прафесіяналамі. Калі б яны цвёрда маўчалі, як было месяцамі ў кардынала Тхуана, што сядзеў у адзіночнай камеры ў В'етнаме, жыццё было б значна цяжэйшым. Сястра Мэры О'Шэнэсі, старэйшы каталіцкі капелан у Мельбурне з досведам працы ў 25 гадоў (адзін чалавек, асуджаны за забойства, сказаў мне, што крыху яе баіцца!), прызнала, што восьмы блок укамплектаваны добрымі кадрамі і выдатна кіруецца.

Прайграўшы сваю апеляцыю ў Вярхоўным судзе Вікторыі, я не збіраўся апеляваць у Вярхоўным судзе Аўстраліі, палічыўшы, што калі суддзі проста самкнуць рады шчыльней, то няма ніякай патрэбы ўдзельнічаць у гэтай затратнай шарадзе. Начальнік турмы ў Мельбурне – чалавек, больш за мяне і выдатны стралок – угаварыў мяне паспрабаваць. Гэта заахвоціла мяне, і я застаюся яму ўдзячны.

Раніцай 7 красавіка нацыянальнае тэлебачанне перадавала абвяшчэнне прысуду з Вярхоўнага суда. Я глядзеў сёмы канал у сваёй камеры: здзіўлены малады рэпарцёр паведамляў Аўстраліі пра маё вызваленне і быў збіты з панталыку адзінагалосным рашэннем сямі суддзяў. Тры іншыя зняволеныя з майго блоку павіншавалі мяне, і хутка мяне выпусцілі ў свет, закрыты праз каранавірус. Маё падарожжа было неверагодным. З Барвана ў кармеліцкі канвент у Мельбурне мяне суправаджалі два верталёты з прэсай, а на наступны дзень два аўтамабілі з журналістамі ехалі разам са мною ўсе 880 км да Сіднэя.

Для многіх час у турме – гэта магчымасць паразважаць над фундаментальнымі праўдамі і паглядзець ім у твар. У маім выпадку турэмнае жыццё прыбрала ўсе адгаворкі, што я быў надта заняты, каб маліцца, і рэгулярны малітоўны расклад падтрымліваў мяне. З самай першай ночы са мною заўсёды быў брэвіярый (нават калі гэта быў няправільны том), а кожны тыдзень я прымаў святую Камунію. Пяць разоў мне ўдалося паўдзельнічаць у Імшы, хоць я і не меў магчымасці яе служыць, пра што асабліва шкадаваў на Божае Нараджэнне і Вялікдзень.

Мяне падтрымлівала мая каталіцкая вера, асабліва разуменне таго, што мае пакуты не абавязкова павінны быць бессэнсоўнымі, што іх можна з'яднаць з пакутамі Хрыста, нашага Пана. Я ніколі не адчуваў сябе пакінутым, бо ведаў, што Пан са мною, хоць большую частку з гэтых трынаццаці месяцаў я не разумеў, што Ён робіць. Многія гады я казаў тым, хто пакутуе і ўстрывожаны, што Божы Сын таксама меў выпрабаванні на зямлі, і цяпер гэты факт суцешыў мяне самога. Таму я маліўся за сяброў і ворагаў, за сям'ю і тых, хто мяне падтрымліваў, за ахвяраў сэксуальных злачынстваў і за маіх калегаў-зняволеных і турэмшчыкаў.

**Даведка.**

Кардынал Джордж Пэл – аўстралійскі іерарх, тытулярны біскуп Скалы і дапаможны біскуп Мельбурна з 1987г. па 1996г. Арцыбіскуп Мельбурна з 1996г. па 2001г. Арцыбіскуп Сіднэя з 2001г. па 2014г. Старшыня камітэту "Vox Clara" Кангрэгацыі багаслужэнняў і дысцыпліны сакрамантаў з 2003г. Прэфект Сакратарыяту па справах эканомікі з 2014г. па 2019г. Кардынал-святар з тытулам касцёла S. Maria Domenica Mazzarello з 2003г.

У чэрвені 2017 г. ён пакінуў пасаду ў Ватыкане і адправіўся ў Аўстралію, каб адказаць на абвінавачванні ў сэксуальных злоўжываннях. 11 снежня 2018 г. іерарх быў прызнаны прысяжнымі ў Мельбурне вінаватым у сэксуальных злачынствах супраць непаўналетніх. 26 лютага таго ж года Апостальская Сталіца вынесла яму забарону на публічнае служэнне і кантакт з непаўналетнімі ў любым выглядзе і форме. 13 сакавіка 2019 г. Пэл быў прызнаны вінаватым у сэксуальных дамаганнях да двух 13-гадовых удзельнікаў хору сабора св. Патрыка ў Мельбурне, што нібыта мела месца ў 1996 г., і асуджаны на шэсць гадоў пазбаўлення волі. Яго ўтрымлівалі ў турме асабліва строгага рэжыму.

Аднак Вярхоўны суд Аўстраліі 7 красавіка 2020г. адзінагалосна апраўдаў 78-гадовага кардынала Джорджа Пэла. Найвышэйшы судовы орган Аўстраліі палічыў, што Вярхоўны суд Новага Паўднёвага Уэльса, які разглядаў скаргу год таму, не ўзяў пад увагу рацыянальных сумневаў на карысць абвінавачанага. Яны не былі прыняты да ўвагі і прысяжнымі, якія разглядалі справу ў 2018 г. Як падкрэслівала абарона, адзін з пацярпелых перад смерцю прызнаўся, што кардынал не здзяйсняў злачынства. Доказамі ў справе былі толькі паказанні другога пацярпелага, якія абвяргалі 20 сведак, выкліканых абаронай. Падкрэслена неверагоднасць месца і часу, у якіх павінен быў адбыцца эпізод у 1996 г. – закрыстыя перапоўненага сабора ў Мельбурне пасля ўрачыстай Імшы.

Пастанова Вярхоўнага суда Аўстраліі ад 7 красавіка 2020г. з'яўляецца канчатковай.

*Крыніца: firstthings.com, пераклад: scriptoriumnostrum.wordpress.com*

# Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі

## Віктарына

**Дзень нараджэння маці ў кожнай сям'і – вялікае свята. 8 верасня Каталіцкі Касцёл адзначае свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Што мы ведаем пра дзень нараджэння Мамы Езуса? Хто былі бацькі Марыі і ў якім горадзе нарадзілася Маці Збаўцы Свету? Праверце свае веды ў Новым тэсце "Каталіцкага Весніка".**

1 Як звалі бацькоў Дзевы Марыі?



**А.** Якуб і Рахіль
**Б.** Яўхім і Ганна
**В.** Захарыя і Альжбета

2 Як перакладаецца імя Марыя (Мірыям)?



**А.** Прыгожая
**Б.** Узнёслая
**В.** Смелая

3 Крыніца, з якой мы ведаем пра Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі:



**А.** Дзеі Апосталаў
**Б.** Евангелле ад Лукі
**В.** Традыцыя Касцёла

4 Касцельнае Паданне расказвае, што маці Панны Марыі паходзіла з:



**А.** З роду Першасвятароў
**Б.** З роду Майсея
**В.** З калена Беньяміна

5 Паводле падання бацька Марыі паходзіў з роду:




**А.** Давіда
**Б.** Іллі
**В.** Аарона

6 Горад, у якім, паводле падання, нарадзілася Маці Божая:



**А.** Бэтлеем
**Б.** Кана Галілейская
**В.** Ерузалем

7 Дзядуля па маці Марыі, паводле падання, быў:



**А.** Святаром
**Б.** Цесляром
**В.** Царадворцам

8 Прычынай смутку бацькоў Дзевы Марыі была:



**А.** Хвароба
**Б.** Беднасць
**В.** Бяздзетнасць

9 Які колер літургічнага адзення апранае святар у свята Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі?




**А.** Чырвоны
**Б.** Зялёны
**В.** Белы

10 З традыцыі мы ведаем, што Марыя яшчэ маленькай дзяўчынкай была:



**А.** Ахвяравана ў святыні на служэнне Богу
**Б.** Пакінута ў пустыні для малітоўнага чування
**В.** Ахрышчана ў рацэ Іардан

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы
на старонцы 16



# Мінскі тэалагічны каледж аб'яўляе набор навучэнцаў

**Мінскі тэалагічны каледж імя святога Яна Хрысціцеля аб'яўляе набор навучэнцаў на 2020/2021 навучальны год, паведамляе Catholic.by.**

Рэгістрацыя кандыдатаў праходзіць **з 7 ліпеня да 27 жніўня.**

Усе дакументы, неабходныя для паступлення, трэба прынесці на ўступны экзамен, які адбудзецца 29 жніўня а 10-й гадзіне па адрасе: вул. Серафімовіча, 19.

Тэлефон для даведак:
**+375 29 616 08 72**
*e-mail: collegium@catholic.by*

**Інфармацыя для абітурыентаў:**

Сярод мэтаў каледжа – паглыбленне рэлігійных ведаў, умацаванне веры і падрыхтоўка спецыялістаў для рэлігійнай дзейнасці.

Навучэнцы каледжа маюць магчымасць атрымаць веды па тэалогіі (дагматычнай, маральнай, пастаральнай), Святым Пісанні, гісторыі Касцёла, кананічным праве, літургіі, патралогіі, рэлігіязнаўстве, сацыяльным вучэнні Касцёла, філасофіі, псіхалогіі, педагогіцы, катэхетыцы, сродках масавай камунікацыі і іншых прадметах згодна з прадпісаннямі Рыма-Каталіцкага Касцёла.

Навучанне ў каледжы працягваецца тры гады (з верасня па чэрвень). Форма навучання – завочная.

Заняткі праводзяцца ў 2-ую і 4-ую суботу месяца. Прымаюцца асобы ад 18 гадоў.

**Адметнасць навучання:**

Група **"A"** (тэалогія) прадугледжана для асобаў, якія жадаюць паглыбіць сваю веру і веды, вывучаючы каталіцкую тэалогію і іншыя прадметы згодна з праграмай навучання. Навучэнцы гэтай групы атрымліваюць дыплом аб заканчэнні каледжа без прысваення кваліфікацыі.

Група **"B"** (тэалогія + катэхетыка) прадугледжана для асобаў, якія жадаюць пасля заканчэння каледжа служыць у парафіях у якасці катэхета (настаўніка катэхізіса). Навучэнцы гэтай групы, акрамя вывучэння тэалогіі, маюць магчымасць набыць паглыбленыя веды ў галіне практычных метадаў катэхізацыі, якія існуюць у Каталіцкім Касцёле.

Група **"C"** (тэалогія + касцельны спеў) прадугледжана для асобаў, якія жадаюць пасля заканчэння каледжа служыць у парафіях у якасці кантара (кіраўніка спеваў). Навучэнцы гэтай групы, акрамя вывучэння тэалогіі, маюць магчымасць набыць паглыбленыя веды ў галіне арганізацыі літургічных спеваў.

Група **"D"** (тэалогія + сродкі масавай камунікацыі) прадугледжана для асобаў, якія жадаюць пасля заканчэння каледжа працаваць у касцельных сродках масавай камунікацыі ў якасці супрацоўніка КСМК (каталіцкіх сродкаў масавай камунікацыі). Навучэнцы гэтай групы, акрамя вывучэння тэалогіі, маюць магчымасць набыць паглыбленыя веды ў галіне сродкаў масавай камунікацыі.

Група **"E"** (тэалогія + рэлігійны турызм) прадугледжана для асобаў, якія жадаюць пасля заканчэння каледжа служыць у касцельных структурах у якасці куратара пілігрымак. Навучэнцы гэтай групы, акрамя вывучэння тэалогіі, маюць магчымасць набыць паглыбленыя веды ў галіне рэлігійнага турызму.

Навучэнцы III курса, у залежнасці ад групы (B, C, D, E), акрамя прадугледжаных праграмай навучання прадметаў, наведваюць лекцыі, якія даюць магчымасць атрымання адпаведнай кваліфікацыі (катэхет, кантар, супрацоўнік КСМК, куратар пілігрымак). Кваліфікацыйны прадмет уваходзіць у выпускныя экзамены.

Пасля заканчэння каледжа навучэнцы гэтых груп атрымліваюць дыплом з пазначэннем прысвоенай ім кваліфікацыі.

**Дакументы, неабходныя для паступлення:**

- лічбавая рэгістрацыя кандыдата;
- заява (напісаная ўласнаручна);
- біяграфія (напісаная ўласнаручна);
- рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;
- копія пасведчання аб хросце (і канфірмацыі);
- копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі
- або іншыя дакументы аб адукацыі;
- копія пашпарта (стар. 31-33);
- 2 фотаздымкі (3x4);
- медыцынская даведка.

**Уступны экзамен:**

- экзамен з катэхізіса і агульных ведаў пра Каталіцкі Касцёл;
- кваліфікацыйная размова.

***Дырэктар каледжа***
***кс. кан. д-р Ян Крэміс***



# Каляндар на верасень

**3 верасня – успамін св. Грыгорыя Вялікага, Папы і доктара Касцёла.**



Нарадзіўся Грыгорый Вялікі каля 540 г. у шляхетнай і багатай рымскай сям'і. Вядома, што ён вызначаўся вялікай вучонасцю, некаторы час быў прэфектам Рыма, а ў 574 годзе заснаваў манастыр св. Андрэя ў сваіх уладаннях у Рыме і стаў у ім манахам. У сакакагадовым узросце прыняў пасвячэнне дыяканату з рук Папы Пелагія II і на працягу сямі гадоў выконваў абавязкі нунцыя пры двары цэзара ў Канстанцінопалі. У 590 годзе, пасля смерці падчас чумы Пелагія II, становіцца Папам. Можна смела сцвярджаць, што ён стаў першым Папам, які быў манахам. Лічыцца, што менавіта пасля яго малітваў эпідэмія чумы спынілася.

Падчас яго пантыфікату да Касцёла былі далучаныя тры вялікія народы: прынялі хрысціянства англічане, а таксама навярнуліся з арыянскай ерасі лангабарды і іспанцы. Святы Грыгорый Вялікі, Папа, засноўваў манастыры і ўмацоўваў аскетычную дысцыпліну. Яго імя запісана ў гісторыі музыкі і літургіі, таму што яму даручылі замовіць і сістэматызаваць літургічны спеў, пазней вядомы як "грыгарыянскі спеў". Ён дадаў да святой Імшы малітву "Ойча наш", якая прамаўляецца адразу пасля Эўхарыстычнага канона. У 600 годзе ўвёў лацінскую мову як адзіную ў літургіі Заходняга Касцёла.

З часоў Грыгорыя да 1962 г. рымскі канон больш не зведаў змяненняў і лічыцца самай багатай па форме эўхарыстычнай малітвай Касцёла. Святы Грыгорый увёў таксама так званую Грыгарыянскую святую Імшу за памерлых, якая адпраўляецца на працягу 30 дзён пасля смерці.

Грыгорый памёр 12 сакавіка 604 г. у Рыме і быў пахаваны ў базіліцы св. Пятра. За ім замацавалася слава дасканалага пантыфіка, а таксама тытул "Вялікі", які далі яму нашчадкі. Святы Грыгорый Вялікі з'яўляецца адным з чатырох заходніх Айцоў Касцёла і лічыцца апекуном музыкантаў, спевакоў і харыстаў, а таксама касцельных школаў.

**8 верасня – Свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.**



Свята прысвечана ўспаміну нараджэння Маці Езуса Хрыста. У Новым Запавеце падаецца вельмі мала звестак пра жыццё Багародзіцы, і падзея, якая адзначаецца ў гэты дзень, зафіксавана толькі ў касцельным паданні, катораe расказвае, што бацькамі Панны Марыі былі пабожныя Яўхім з роду цара Давіда і Ганна – з роду першасвятароў. Панна Марыя нарадзілася па адмысловым зароку Бога, дадзеным Яўхіму і Ганне, калі яны былі ўжо ў сталым узросце. Святкуючы Нараджэнне Багародзіцы, хрысціяне падкрэсліваюць, наколькі важная роля адведзена Панне Марыі ў ажыццяўленні плану выратавання чалавецтва. Першыя згадванні пра свята Нараджэння Багародзіцы датуюцца другой паловай V стагоддзя. Прыкладна ў гэты ж час падзея была ўключана ў касцельны каляндар.

**12 верасня – успамін Найсвяцейшага Імя Марыі.**



У гэты дзень мы праслаўляем Яе імя – "Марыя", якое, паводле традыцыі, Яна атрымала на чацвёрты дзень пасля свайго нараджэння. Гэтае імя ад пачатку хрысціянства з вялікай пашанай вымаўлялася побач з імем Езуса.

**14 верасня – свята Узвышэння Святога Крыжа.**

Лічыцца, што 14 верасня 335 г. адбылося асвячэнне святыні над пячорай Гроба Пана, дзе ўстанавілі знойдзены Крыж Збаўцы (адшукала крыж святая Алена – маці імператара Канстанціна). Каб шматлікія хрысціяне, прысутныя на ўрачыстасці, маглі ўбачыць вялікую святыню, біскуп узнімаў ("узвышаў") Крыж над галовамі людзей. У Рыме свята было ўведзена Папам Грыгорыем І.

**15 верасня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.**



Марыя трывала ў адзінстве са сваім Сынам аж да крыжа, пад якім стала згодна з Божым намерам. Глыбока цярпела разам са сваім Сынам і злучылася матчыным сэрцам з Яго ахвяраю. Найсвяцейшая Панна, ахвяруючы Езуса ў святыні і церпячы разам са сваім Сынам, Які паміраў на крыжы, асаблівым чынам супрацоўнічала са справаю Збаўцы праз веру, надзею і гарачую любоў, каб аднавіць звышнатуральнае жыццё душ.

**21 верасня – свята св. Мацвея, апостала і евангеліста.**



Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпет і Эфіопію. Там ім былі здзейсненыя шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з'яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.

**23 верасня – успамін св. Піа з П'етрэльчыны, святара.**

Францішэк... Франчэска Фарджонэ – будучы айцец Піа – нарадзіўся 25 мая 1887 г. у П'етрэльчыне (Паўднёвая Італія). У шаснаццацігадовым узросце ўступіў у закон капуцынаў і праз сем гадоў прыняў святарскае пасвячэнне. У 28 гадоў



айцец Піа атрымаў стыгматы – раны, як у Езуса Хрыста, што прычынялі яму нясцерпны боль. Праз накладзеныя на яго абмежаванні падрэ Піа прысвяціў сябе паглыбленаму духоўнаму жыццю, асабліва культу Эўхарыстыі, Мукі Пана і Маці Божай Балеснай, а таксама апостальству споведзі. Айцец Піа вядомы таксама як містык: ён меў дар білакацыі (аднaчасовага знаходжання ў двух месцах), дары моваў, чытання ў сумленні, прадказання будучыні. Акрамя таго, ён заснаваў Дом палёгкі ў цярпенні – сучасную медыцынскую ўстанову, якая разам з тым з'яўляецца месцам малітвы і навукі, а таксама міжнародны малітоўны рух, што ахоплівае сотні груп вернікаў па ўсім свеце.

Падрэ Піа памёр 23 верасня 1968 г. у Сан-Джаванні Ратонда, дзе і быў пахаваны. Праз трыццаць гадоў пасля смерці ён быў беатыфікаваны, а ў 2002 г. кананізаваны.

**29 верасня – свята святых Арханёлаў Міхаіла, Габрыэля, Рафаіла.**

Святы Арханёл Міхаіл – апякун Касцёла ў Беларусі. Імя "Міхаіл" некалькі разоў узгадваецца ў Святым Пісанні і азначае "Хто як Бог". У Евангеллі гаворыцца яшчэ пра аднаго Арханёла – Габрыэля, які прадказаў святару Захарыю нараджэнне сына – святога Яна Хрысціцеля, а Панне Марыі звеставаў нараджэнне Езуса Хрыста. Арханёл Рафаіл згадваецца ў старазапаветнай кнізе Тобія. Лічыцца, што ён ахоўвае людзей ад хваробаў і ранаў.

*Падрыхтавала* **Вікторыя Колзун**

## На верасень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*; імяніны адзначае **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*;

**4 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**9 верасня** – імяніны адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**11 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Дзмітрый Занямонскі OMI** *(Шуміліна)*;

**17 верасня** – дзень нараджэння адзначае **а. Зміцер Грышан** *(Віцебск)*;

**18 верасня** – імяніны адзначае **а. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**19 верасня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Бягомль)*;

**20 верасня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Уладзімір Грыгор'еў**;

**21 верасня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*, **а. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**22 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. канонік Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;

**26 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. канонік Андрэй Аніскевіч**, дырэктар Карытас *(Віцебск)*;

**28 верасня** – імяніны адзначаюць **кс. Вячаслаў Барок** *(Расоны)*, **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*, **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;

**29 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*; імяніны адзначаюць **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*, **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*.

*Падрыхтавала* **Вікторыя Колзун**

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

**Пакой для малітвы**

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.
Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Вучэнне Касцёла аб смяротным пакаранні

**Два гады таму, 2 жніўня 2018 г., Папа Рымскі Францішак унёс змены ў параграф 2267 Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, які датычыць маральнай ацэнкі смяротнага пакарання. З нагоды гэтай даты варта ўзгадаць, што кажа пра смяротнае пакаранне каталіцкае веравучэнне.**

С. Дар'я Галубкова OV

Смяротнае пакаранне – гэта найвышэйшае вымярэнне пакарання за найбольш цяжкія злачынствы. У часы Старога Запавету яно прымянялася за праступкі супраць жыцця, веры, бацькоў, сэксуальнасці і за невыкананне шабату. У большасці выпадкаў, аднак, акрамя хіба наўмыснага забойства, смяротны прысуд мог быць заменены на выкуп. Старажытныя хрысціянскія мысліцелі лічылі смяротнае пакаранне супярэчным веры. Адной з умоваў прыняцця хросту чыноўнікам у Рымскай імперыі ў першых стагоддзях было адрачэнне ад права ius gladii – аддавання кагосьці на смерць. Тым не менш, з цягам часу магчымасць смяротнага пакарання паступова прымалася і хрысціянамі як адзін з элементаў дзяржаўнага закону. Святы Тамаш з Аквіну абгрунтоўваў прымяненне смяротнага пакарання патрэбай абароны супольнага дабра, крайняй неабходнасцю аховы грамадства ад злачынцы.

Аргумент Святога Тамаша ў XIX- XX ст.ст. паступова пачаў страчваць сваю актуальнасць разам з развіццём турэмнай сістэмы і нарастаннем уразлівасці грамадства што да патрэбы абароны правоў чалавека. Аднак дапушчэнне смяротнага пакарання ў выключных выпадках існавала далей у вучэнні Касцёла. Яно грунтавалася на так званым праве на справядлівую, або слушную, абарону. Згодна з гэтым правам, можна пазбавіць жыцця нападніка, калі ўсіх іншых бяскроўных сродкаў недастаткова для абароны ўласнага жыцця ад яго. Менавіта такое тлумачэнне знаходзім у старых падручніках для катэхезы або ў першым выданні Катэхізіса Каталіцкага Касцёла з 1982 года.

На практыцы Каталіцкі Касцёл, аднак, выступаў за адмену смяротнага пакарання ў свеце. Папа Ян Павел II у энцыкліцы «Evangelium vitae» (1995 г.), прысвечанай вартасці і непарушальнасці чалавечага жыцця, закрануў тэму смяротнага пакарання і ўзгадаў словы Катэхізіса, што нельга прымяняць найвышэйшую меру пакарання, гэта значыць, пазбаўляць жыцця злачынцу, акрамя як у выпадках абсалютнай неабходнасці, калі няма іншых спосабаў аховы грамадства. Сёння аднак, – дадаў Папа — дзякуючы штораз лепшай арганізацыі пенітэнцыярных устаноў, такія выпадкі вельмі рэдкія, а можа быць, ужо не здараюцца ўвогуле. У 1997 годзе Ян Павел II зрабіў першы папраўкі ў Катэхізіс, уключыўшы ў яго вышэйузгаданае сцвярджэнне.

Папа Бэнэдыкт XVI таксама заклікаў да скасавання смяротнага пакарання. У сваім пасланні на Трэці Сусветны кангрэс супраць смяротнага пакарання (2007 г.) Папа сцвярджаў, што яно з'яўляецца не толькі замахам на жыццё, але абразай чалавечай годнасці. Наступнік Бэнэдыкта XVI, Папа Францішак, пайшоў яшчэ далей: выступаючы за адмену смяротнага пакарання, ён назваў нават пажыццёвае зняволенне яго ўтоенай формай. І менавіта Папа Францішак спецыяльным дакументам – рэскрыптам, які суправаджаўся пасланнем прэфекта Кангрэгацыі Веравучэння да ўсіх біскупаў свету, увёў прынцыповую змену ў Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, не пакідаючы для смяротнага пакарання ніводнай магчымасці.

Святы Айцец падкрэсліў, па-першае, што чалавек не страчвае сваёй годнасці нават пасля здзяйснення найцяжэйшых злачынстваў. Па-другое, у сучасным свеце распаўсюдзілася новае разуменне сэнсу карных санкцый, якія выкарыстоўвае дзяржава ў абароне грамадзян. Маецца на ўвазе, што пакаранне не павінна быць помстай, але мусіць несці выхаваўчы сэнс, не адбіраць у асуджанага магчымасці пакаяння. Да таго ж у нашы дні створаныя больш эфектыўныя сістэмы абмежавання волі, якія канчаткова не пазбаўляюць зняволенага магчымасці адкуплення правінаў. Такім чынам, параграф 2267 найноўшай версіі Катэхізіса кажа наступнае:

«Касцёл у святле Евангелля навучае, што смяротнае пакаранне недапушчальнае, таму што з'яўляецца замахам на непарушнасць і годнасць асобы. Па гэтай прычыне Касцёл рашуча імкнецца да яго адмены ва ўсім свеце».

У свеце шмат міжнародных рухаў і арганізацый змагаецца супраць пакарання асуджаных на смерць. Ужо больш за дзве трэція краін свету адмовіліся ад смяротнага пакарання. 108 краін зрабілі гэта цалкам, 7 краін пакінулі магчымасць яго выканання толькі ў выключных абставінах, такіх як ваеннае становішча, а ў 29 дзяржавах уведзены мараторый на смяротнае пакаранне або на працягу апошніх дзесяці гадоў не выконвалася ніводнага смяротнага прысуду. На жаль, практыка смяротнага пакарання далей захоўваецца ў 55 дзяржавах. Гэта ў асноўным краіны Азіі і Афрыкі, а таксама Злучаныя Штаты Амерыкі і наша краіна – Рэспубліка Беларусь. Большасць прысудаў выконваецца ў Кітаі, Іране, Саудаўскай Аравіі, В'етнаме і Іраку.

Толькі Бог з'яўляецца Панам жыцця, толькі Ён мае права ім распараджацца: даць або забраць. Мы часта дзелім людзей на лепшых і горшых, на добрых і кепскіх, прысвойваем сабе права вырашаць, хто мае права жыць, а хто павінен быць асуджаны на смерць. Аднак Бог бачыць не так, як чалавек. Жыццё ўсіх людзей, нават найгоршага злачынцы ў вачах Бога-Стваральніка мае аднолькавую вартасць. Неабходна пра гэта памятаць і маліцца, каб чалавечае жыццё і годнасць былі шанаваныя ва ўсім свеце.



# Ці можа святар адпраўляць Імшу за жывых і памерлых адначасова?

**"Паважаная Рэдакцыя! У мяне да вас такое пытанне. Я ахвяравала інтэнцыю святой Імшы аб здароўі для сына. Перад самай Імшой прыйшлі іншыя людзі і ахвяравалі інтэнцыю за памерлых. Я была здзіўленая і пасля Імшы запыталася ў пробашча, ці так можна рабіць? На што атрымала адказ: "Так маліцца можна". Прашу вас, растлумачце, калі ласка, падрабязней. Выходзіць, што я магу ахвяраваць адну інтэнцыю за "здравие и за упокой"? Мне гэта не зразумела. Вельмі прашу, растлумачце. І ці была Імша сапраўднай?" Ваша пастаянная чытачка.**

– Дзякуй за пытанне, шаноўная спадарыня! У вашым пытанні, на самай справе, знаходзіцца іх некалькі, таму паспрабую адказаць і растлумачыць сітуацыю.

Пачнём з апошняга пытання – пра сапраўднасць святой Імшы.

Кодэкс Кананічнага Права ў 900 каноне акрэслівае: "Служыцелем, які можа цэлебраваць у асобе Хрыста сакрамант Эўхарыстыі, з'яўляецца толькі святар, пасвечаны сапраўдна. Годна цэлебруе Эўхарыстыю святар, якому гэта не забараняе кананічнае права...". Адсюль вынікае, што святая Імша была сапраўднай, бо святара, які яе цэлебраваў, вы добра ведаеце. Больш за тое, ён з'яўляецца пробашчам вашай парафіі (калі я добра зразумеў).

Пойдзем далей. Канон 901 сцвярджае, што "святар, можа цэлебраваць святую Імшу за ўсіх – як за жывых, так і за памерлых". Гэта вельмі добра паказвае нам сам абрад святой Імшы. У Першай Эўхарыстычнай Малітве (Рымскім каноне) спачатку ідзе ўспамін жывых вернікаў, а пазней, пасля перамянення дароў, успамінаюцца памерлыя. Дарэчы, пералічваць імёны жывых і памерлых вернікаў падчас святой Імшы якраз і можна толькі ў Рымскім каноне. Калі казаць пра іншыя Эўхарыстычныя малітвы, якія дазваляецца выбіраць святару самастойна, то і яны збудаваныя таксама па гэтым прыкладзе: ідзе успамін жывых вернікаў, а пазней – памерлых, аднак не пералічваючы іх імёнаў, калі гаворыцца не пра пахавальныя Імшы альбо пра Імшы за памерлых.

Іншым канонам, што нам дапамагае атрымаць адказ, з'яўляецца канон 945. Першы параграф узгаданага канона пастанаўляе: "Згодна з агульназацверджанай Касцёлам практыкай кожны святар, які цэлебруе або канцэлебруе Імшу, прымае ахвяраванне для цэлебрацыі Імшы ў канкрэтнай інтэнцыі". Параграф другі гэтага ж самага канона настойліва рэкамендуе святарам таксама цэлебраваць Імшу ў інтэнцыях вернікаў, асабліва бедных, нават не атрымліваючы ахвяраванняў.

Тут можна таксама прыгадаць і вернікам, што ў большасці краін свету, таксама і ў Беларусі, адзіным даходам, які атрымлівае святар, якраз і з'яўляюцца імшальныя стыпендыі (ахвяраванні, што даюцца для цэлебрацыі Імшы ў канкрэтных інтэнцыях). Канон 946 акрэслівае: "Вернікі, якія прыносяць ахвяраванні, каб Імша была цэлебравана ў іх інтэнцыях, садзейнічаюць дабрабыту Касцёла і праз гэтыя ахвяраванні ўдзельнічаюць у яго клопаце аб утрыманні святароў і спраў [якія выконвае Касцёл]".

Канон 948 Кодэкса Кананічнага Права сцвярджае: "Належыць асобна цэлебраваць святыя Імшы ў інтэнцыях тых, за каго было складзена і прынята асобнае ахвяраванне, нават невялікае". Да гэтага канону неабходна далучыць таксама і прадпісанні Дэкрэту Mos iugiter Кангрэгацыі па справах Духавенства ад 2 лютага 1991 году, зацверджанага Папам Янам Паўлам II. Згодна з артыкулам 1 § 2, парушаюць норму канона 948 і адпавядаюць за гэта ў сумленні "святары, якія, сабраўшы ахвяры на цэлебрацыі святых Імшаў у вызначаных інтэнцыях, не атрымаўшы папярэдняй згоды ахвярадаўцаў, злучаюць іх у адно ахвяраванне і цэлебруюць за іх адну святую Імшу, у так званай складковай інтэнцыі".

У артыкуле 2 §1 і §2 узгаданы вышэй Дэкрэт робіць выключэнне, кажучы: "Калі ахвярадаўцы загадзя паінфармаваныя і адназначна свабодна згаджаюцца, каб іх ахвяраванні былі злучаныя з іншымі ў адно ахвяраванне, можна за іх цэлебраваць адну святую Імшу ў складковай інтэнцыі. У такім выпадку трэба аб'явіць публічна, дзе і калі будзе цэлебравана [складковая] святая Імша, аднак яна не павінна цэлебравацца часцей чым два разы на тыдзень".

Такім чынам, можна адказаць, што святая Імша аб здароўі для вашага сына была сапраўднай.

Іншы момант, калі святар хацеў спалучыць дзве інтэнцыі ў адну і адправіць адну Імшу, то ён спачатку павінен быў атрымаць вашу згоду і згоду жанчыны, якая ахвяравала інтэнцыю за памерлых. Калі ж гэта была складковая Імша, то святар, які яе цэлебраваў, таксама павінен быў паведаміць вам пра гэта, як прадпісвае артыкул 2 Дэкрэту Mos iugiter, а калі ён гэтага не зрабіў, то парушыў канон 948 Кодэкса Кананічнага Права.

З павагай,
**кс. Аляксей Ляшко**
*(афіцыял Біскупскага Суда)*

Каталіцкі ВЕСНІК
№8 (113)
жнівень 2020 г.



## Хвала Хрысту!

*Удзельнікі малітоўнага руху «Маргарытка» з Падсвільскай парафіі Глыбоцкага раёна віншуюць з Днём нараджэння* ***кс. Андрэя Куліка****, які ён адзначае 26 жніўня.*

*Ад усяго сэрца віншуем Вас, паважаны кс. Андрэй! Молімся за Вас. Жадаем добрага здароўя, сілы і цярпення, душэўнага спакою і добрага настрою, плёну ў працы на карысць Святога Касцёла!*

*Няхай усе людзі, якіх Вы сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць Вас ветлівасцю і дабрынёй! Божага благаслаўлення Вам і апекі Маці Божай!*

***З павагай, вернікі касцёла Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Падсвіллі***

## Хвала Хрысту!

*26 жніўня адзначае День нараджэння наш пробашч –* ***ксёндз Андрэй Кулік****. Сардэчна віншуем паважанага святара. Ад усяго сэрца жадаем Вам плёну ў працы на Божай ніве, моцы духа, спаўнення задум і планаў, вытрымкі ў цяперашня час!*

*Хай праменіцца Божым святлом Ваш далейшы святарскі шлях! Святлом, якім Вы шчодра дзеліцеся з намі падчас кожнай святой Імшы, казанняў. Зычым моцнага здароўя, штодзённай радасці, нястомнай апекі Божай Маці!*

***З удзячнасцю, вернікі Мёрскай парафіі Унебаўзяцця Панны Марыі і Св. Язафата Кунцэвіча***

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •



## Хвала Хрысту!

*28 жніўня адзначае Дзень нараджэння наш вікарый –* ***ксёндз Аляксандр Дулінец****.*

*Шаноўны кс. Аляксандр! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды! Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці і аптымізму, плёну ў працы на доўгія гады святарскага служэння! Шмат Божых ласкаў Вам, каб кожны дзнь быў напоўнены шчасцем і радасцю! Хай добры і міласэрны Бог благаслаўляе на новыя справы і няспынна аберагае ў штодзённым служэнні Бгу і людзям! Дзякуем за Ваша добрае і чулае сэрца, за шчырую малітву.*

***Вернікі Мёрскай парафіі Унебаўзяцця Панны Марыі і Св. Язафата Кунцэвіча***

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •



## Хвала Хрысту!

*З сардэчнай цеплынёй і малітоўнай памяццю віншуем былога нашага святара –* ***ксяндза Вячаслава Пялінка,*** *які 29 жніўня адзначае Дзень нараджэння.*

*Цяпер кс. Вячаслаў працуе ў Брэсце, але мя яго памятаем, успамінаем у малітвах і ніколі не забудзем. Жадаем кс. Вячаславу, каб яго служэнне Богу і людзям прыносіла добры плён, а яго святарства заўсёды было пад апекай Маці Божай. Дзякуем за ахвярную і адданую працу ў нашай парафіі.*

*Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам у ажыццяўленні жыццёвых планаў, а Маці Божая няспынна моліцца за добрага і любімага нашага святара перад Божым тронам, ахінае сваёй апекай і прытуляе да свайго Матчынага сэрца.*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне Ідолтаўскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*10 жніўня адзначыў свой Дзень нараджэння наш* ***ксёндз Вячаслаў Адамовіч****.*

*Шаноўны ксёндз Вячаслаў! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды. Жадаем Божай ласкі, моцнага здароўя, здзяйснення мараў, радасных дзён і толькі добразычлівых людзей побач.*

*Няхай Езус Хрыстус благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая няхай ахінае сваёй любоўю і апекай, Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае ласкамі.*

*Выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве.*

*Нізкі паклон Вам, шаноўны ксёндз, за сумесныя малітвы, дабрыню, разуменне і цярплівасць.*

***З найлепшымі пажаданнямі, вернікі Ідолтаўскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны* ***ксёндз Вячаслаў Адамовіч,*** *віншуем Вас з Днём нараджэння! Няхай Пан Бог адорыць Вас моцным здароўем, а Маці Божая ахіне найлепшымі ласкамі, анёлы і святыя ахоўваюць на ўсіх Вашых шляхах. Мы Вас любім. Жадаем бачыць кожную святую Імшу у нас, нашых капліцах, бо Вы наш лекар, і вельмі дзякуем за тое, што ёсць разам з намі.*

***З удзячнасцю, вернікі капліц у Забалоцці і Дзедзіне***

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

## Хвала Хрысту!

*5 жніўня адзначыў гадавіну святарскага пасвячэння шаноўны* ***ксёндз-пробашч Юрый Жаўняровіч****.*

*Выказваем Вам, паважаны ксёндз Юрый, падзяку за шчырыя малітвы, за адказную працу, за мудрыя парады. Вы – зорка, святло, якое знішчае цемру і дапамагае не збіцца з правільнай дарогі! Няхай Дух Святы напаўняе Вас сіламі, цярпеннем і глыбокай верай у Хрыста, Які спрыяе ў ажыццяўленні планаў! А Марыя хай ахіне любоўю, ласкай і пяшчотай!*

*Няхай заўсёды Бог аберагае*
*Ад зла, хваробы і журбы!*
*І ласку шчодра пасылае*
*Сёння, заўтра і заўжды!*

***Вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа, аг. Ахрэмаўцы***

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны* ***ксёндз Уладзімір Шымковіч****, віншуем Вас з Днём нараджэння (7 жніўня) і складаем самыя сардэчныя пажаданні!*

*Просім Міласэрнага Пана, каб адарыў Вас моцным здароўем, моцай і нязгасным энтузіязмам у шчырым служэнні Богу і людзям! Жадаем Вам душэўнага супакою, радасці, поспехаў у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, добразычлівых людзей побач. Няхай Пан Бог благаславіць кожны момант Вашага жыцця, Маці Божая Марыя адорыць сваёй ласкай і апекай, а анёл-ахоўнік засцерагае ад усялякага зла. Жадаем доўгіх год жыцця, мудрасці і цярплівасці.*

*Ад усяго сэрца дзякуем за святыя сакраманты, Вашу любоў, парады, клопат і нялёгкую працу ў нашай парафіі. І нізкі Вам паклон!*

***З павагай, вернікі парафіі Маці Божай Фаціміскай у Дуброўне***



## Хвала Хрысту!

*1 верасня адзначае Дзень нараджэння* ***ксёндз-пробашч Віталь Бяленік****.*

*Дзякуем Пану Богу, што ў нас ёсць такі святар, які шмат працуе і клапоціцца пра парафію і касцёл.*

*Жадаем Вам, кс. Віталь, Божай мудрасці, моцнага здароўя, цярплівасці на святарскім шляху, радасных дзён!*

*Божага благаслаўлення Вам і Вашым родным!*

***Апостольскі рух «Маргарытка», мястэчка Падсвілле***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны* ***айцец Віталій****! У свой Дзень Нараджэння прыміце шчырыя пажаданні міра, дабра, любові, надзеі, радасці, вялікай павагі і дастойнай ацэнкі вашай працы вернікамі. Будзьце здаровым і нястомным у сваёй важнай справе. Заставайцеся такім бадзёрым, поўным сіл і аптымізму. Вы не шкадуеце пазітыўнай энергіі для людзей, падтрымліваеце іх у цяжкіх сітуацыях. Няхай Вам будзе па сілах падараваць веру нават самым адчайным, няхай у Вас атрымліваецца ўсё і заўсёды. Нястомнай апекі Маці Божай і клопату Айца Нябеснага Вам на жыццёвым шляху.*

***Вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Падсвіллі***

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*28 жніўня вікарый Нацыянальнага санктуарыя Маці Божай у Будславе* ***кс. Аўгуст Калясінскі*** *адзначае імяніны. Шчыра віншуем і жадаем Вам, ксёндз Аўгуст, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, Божай мудрасці, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Маці Божай, моцнага здароўя! Дзякуем Вам за Божае слова, за Ваша добрае сэрца. Няхай Усемагутны Бог і Анёл-ахоўнік заўсёды берагуць і падтрымліваюць Вас!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі Будслаўскай парафіі Унебаўзяцця НПМ з вёскі Ілава***

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Віншуем нашага* ***ксяндза Генадзя Рэйшэля*** *з Днём нараджэння, які ён адзначае 16 жніўня! Няхай добры Бог адорыць ксяндза Генадзя моцным здароўем, дасць усе патрэбныя ласкі для далейшага плённага святарскага шляху!*

*За амаль тры гады святарскай працы ў Ёдах святар зрабіў вельмі многа для нашай парафіі, усё і пералічыць немагчыма. Мы свайго Пастыра любім і паважаем!*

16 ліпеня ў нас адбыўся парафіяльны фэст у гонар Маці Божай Шкаплернай. Да нас на свята завіталі біскуп Алег Буткевіч, ксёндз-дэкан Ян Пугачоў і ксёндз Віктар Сініцкі. Таксама прыехала многа гасцей з Шаркаўшчыны, Більдзюг, Германавіч і Браслава. Біскуп Алег Буткевіч скіраваў прывітальнае слова да вернікаў: «Не бойцеся даверыць сваё жыццё Пану Богу праз Найсвяцейшую Дзеву Марыю! Не бойцеся жыць з Богам і для Бога. Самае вялікае шчасце – любіць Бога, а самае вялікае няшчасце – жыць без Бога. Я жадаю, каб кожны чалавек гэта зразумеў і адкрыў сваё сэрца на Божую любоў праз заступніцтва Найсвяцейшай Маці!» Пастыр дыяцэзіі цэлебраваў святую Імшу, а потым асвяціў адрэстаўраваны абраз і новы алтар, які зроблены па ініцыятыве ксяндза Генадзя. На заканчэнне ўрачыстасці біскуп Алег выказаў падзяку ўсім прысутным і падзякаваў Пану Богу за добрае надвор'е, якое ёсць знакам Божай любові.

Пазней гасцей свята чакаў салодкі стол на свежым паветры і канцэрт мясцовых самадзейных артыстаў.

***Ад усіх парафіян, Галіна Яблонская***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія мы вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**6 верасня 2020г. Мц 18, 15-20**

Урывак з Евангелля распавядае нам супольнасць. А ў супольнасці, як вядома, здараюцца розныя рэчы. Бывае і так, што хтосьці кагосьці крыўдзіць. Езус падказвае нам, як паступаць у такім выпадку. Заўважым, што ў тэксце для азначэння грэшніка Езус ужывае слова "брат". Не вораг, не непрыяцель, не крыўдзіцель, а менавіта "брат". Тое, што нехта зграшыў ці памыліўся ў жыцці, не азначае, што адразу яго трэба кляйміць словам "вораг". Хрысціяне так не паступаюць. Езус заклікае ў такім выпадку прыватна дакарыць брата па-братэрску. Калі ж не паслухаецца, то трэба запрасіць аднаго або двух сведак, каб дакор меў большую моц. Застаецца яшчэ і трэці варыянт, калі грэшнік упарта трывае пры сваіх памылках. Сказаць касцёлу, супольнасці. Усе гэтыя варыянты маюць выключна пастырскі характар, і іх мэта заключаецца толькі ў выпраўленні грэшніка. Нават адносіны да яго як да мытніка і язычніка таксама пакліканы абудзіць сумленне чалавека. Мы бачым, якая вялікая моц і адказнасць супольнасці. Якая вялікая адказнасць апосталаў (а сёння – біскупаў), што маюць магчымасць звязваць і развязваць на зямлі, каб гэта было звязана або развязана ў небе. Езус таксама падкрэслівае каштоўнасць супольнай малітвы. Словы "дзе двое ці трое сабраліся ў імя Маё, там Я ёсць сярод іх" нагадваюць нам тытул Збаўцы – "Эмануэль", што значыць "Бог з намі". Калі хрысціяне згодна моляцца разам, то іх малітва становіцца малітвай Хрыста, якую выслухоўвае Айцец Нябесны. Аднак ці нашыя супольнасці, нашыя парафіі – гэта месца прымірэння і прабачэння ці, можа, месца нездаровай канкурэнцыі, зайздрасці і абгавораў?

**13 верасня 2020г. Мц 18, 21-35**

Кожны раз, калі мы адчуваем крыўду і нежаданне прабачыць іншаму чалавеку, нам варта прыгадаць сабе гэты ўрывак з Евангелля. Пётр задае Езусу важнае пытанне адносна прабачэння. Ці аж сем разоў трэба прабачыць? Цікава, што апостал ужывае лічбу сем, у той час, калі рабіністычная традыцыя ў Ізраэлі навучала аб патройным прабачэнні. Пётр бярэ з запасам. А што адказвае Езус? Ён навучае, што прабачаць трэба аж семдзесят сем разоў. Грэцкі варыянт тэксту "семдзесят сем" можна перакласці як "семдзесят разоў па сем", што азначала б 490 разоў. Улюбым выпадку, які б варыянт перакладу мы не выбралі, становіцца зразумелым, што Езус гаворыць аб неабмежаваным прабачэнні. Тут ёсць адгалосак са Старога Запавету ў выказванні Ламеха, нашчадка Каіна, які гаворыць, што калі за Каіна трэба адпомсціць сем разоў, то за Ламеха – семдзесят сем разоў (пар. Быц 4,24). Але чаму Езус сцвярджае, што прабачэнне павінна быць бязмежным? Ён тлумачыць гэта ў прыпавесці пра караля і даўжніка. Каб зразумець гэты прыклад, спатрэбіцца крыху арыфметыкі. І так, даўжнік вінен каралю 10000 талантаў. Адзін талант – гэта 6000 дынараў. А адзін дынар – гэта сярэдні заробак за адзін дзень працы ў часы Хрыста. Выходзіць, што адзін талант – гэта заробак чалавека за шаснаццаць з паловай гадоў працы. А доўг даўжніка – 10000 талантаў. Гэта сума грошай, якую можа зарабіць працаўнік за 164000 гадоў. Людзі столькі не жывуць. Такі доўг сплаціць не рэальна. Аднак кароль прабачае гэты доўг даўжніку. На гэтым прыпавесць не заканчваецца. Даўжнік вымагае ў сваю чаргу ад іншага чалавека вярнуць яму 100 дынараў. Гэта ў 600000 разоў менш, чым вінаваты быў сам даўжнік каралю. Ён душыць яго і настойвае: "Аддай мне, што вінен". Ці ж не падобны часам мы да такога няўдзячнага даўжніка, якому Бог прабачыў нерэальна вялікі доўг, а самі гатовыя вытрасці душу з тых, хто нам вінаваты? Бог бязмежны ў міласэрнасці і ад нас чакае таго ж.


Вінаграднік у Ізраэлі.



Сярэбраны рымскі дынар.

**20 верасня 2020г. Мц 20, 1-16а**

Каб лягчэй зразумець сэнс гэтага ўрыўка Евангелля, спачатку перавядзём меры часу эпохі Хрыста ў больш зразумелую для нас сістэму 24-х гадзін. Такім чынам, біблійная трэцяя гадзіна па сучасным гадзінніку будзе азначаць 9.00 гадзін. Шостая гадзіна ў Біблії – гэта 12.00 гадзін сёння. І адпаведна дзявятая і адзінаццатая гадзіны – гэта 15.00 і 17.00 гадзін. Прыпавесць распавядае пра гаспадара дому, які наймае працаўнікоў на працу ў свой вінаграднік. З самымі першымі, нанятымі на світанні, ён дамаўляецца аб аплаце па дынару за дзень. Нанятым пазней, нават тым а 17.00 гадзіне, гаспадар абяцае справядлівую ўзнагароду. Увечары, калі настаў час заплаты, усе атрымалі пароўну, што выклікала незадавальненне першых. У прыпавесці Езус распавядае нам пра шчодрасць Бога, Які хоча збавіць усіх людзей. Гэты тэкст Евангелля можна аднесці да справы евангелізацыі народаў. Ізраэль быў першым, хто пачуў Добрую Навіну пра збаўленне. Аднак пазней праз місійную дзейнасць апосталаў і іх наступнікаў Евангелле стала абвяшчацца і язычнікам. З язычніцкіх народаў, якія прынялі хрысціянства, мы сёння ведаем шмат людзей, што адзначыліся святасцю і пабожнасцю і кананізаваныя Каталіцкім Касцёлам. Іншы сэнс прыпавесці заключаецца ў асабістым навяртанні кожнага чалавека. Ніколі не позна пайсці за Хрыстом. Нават у вечары свайго жыцця. Хтосьці сапраўды, з дзяцінства атрымаўшы рэлігійнае выхаванне, усё сваё жыццё верна трывае пры Хрысце і Яго навуцы. А камусьці такая ласка даецца ў дарослым узросце ці ў пажылым веку. Езус прагне дзяліцца сваёй узнагародай з кожным. Бо Ён – міласэрны Бог.

**27 верасня 2020г. Мц 21, 28-32**

Езус зноў ужывае вобраз вінаградніка, каб наблізіць нам ісціну пра Божае Валадарства. У культуры ізраэльскага народа выкананне волі бацькі было святой рэччу. Падлягаў ганьбе і асуджэнню той сын, які не жадаў слухацца сваіх бацькоў. Першы сын з прыпавесці якраз так і паступае. Выказвае сваё нежаданне падпарадкавацца. Аднак пазней мяняе сваю думку. Навяртаецца. Другі сын адразу згаджаецца, але не ідзе працаваць у вінаграднік. Заўважым, што ён ужывае слова "спадару" ў звароце да свайго бацькі. Ці нам гэта штосьці прыпамінае? Успомнім іншы ўрывак з Евангелля, дзе Езус гаворыць: "Не кожны, хто кажа Мне: "Пане, Пане", увойдзе ў Нябеснае Валадарства, але той, хто выконвае волю Айца Майго, Які ў нябёсах." А хто можа ўвайсці ў неба? Па словах Езуса, туды, хутчэй, увойдуць мытнікі і распусніцы, чым фарысеі. Справа зноў жа ў навяртанні і пакаянні. Многія грэшнікі, пачуўшы слова Яна Хрысціцеля, задумаліся над сваім жыццём, зрабілі высновы і памянялі свае паводзіны. А вучоныя ў Пісанні людзі, кіраўнікі і старэйшыны народу, не паверылі слову прарока. А не паверыўшы, не перажылі навяртання. Бог называе нас сваімі дзецьмі, а нам у сваю чаргу трэба быць Яму паслухмянымі.

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Віктар Місевіч***
*Віцебск*

# Унікальнаму папамабілю
## Mercedes-Benz споўнілася 40 гадоў

**Папамабіль адмысловай канструкцыі быў спраектаваны спецыяльна для візіту св. Яна Паўла II у Германію ў 1980 г. З верасня 2020 г. "юбіляр" будзе знаходзіцца ў аўтамабільным музеі маркі Mercedes-Benz у Штутгарце.**

Хоць гісторыя папскіх "Мэрсэдэсаў" налічвае больш за 90 гадоў, аднак гэты сакрагадовы папамабіль з'яўляецца ўнікальным. Мадэль Mercedes-Benz 230G была першай цалкам адаптаванай да патрэб Святога Айца. Ззаду машыны размешчаны спецыяльнае крэсла і парэнчы, каб Папа мог падарожнічаць стоячы. Месца, на якім стаяў Святы Айцец, узнята на 40 см адносна кабіны кіроўцы і накрыта празрыстым купалам са шкла. Дзякуючы гэтаму св. Яна Паўла II маглі бачыць тысячы вернікаў, якія прымалі ўдзел у сустрэчы з ім.

Папамабіль быў аснашчаны аўтаматычным кандыцыянерам, што забяспечваў адпаведную тэмпературу ў спякотныя дні. У 1981 г., пасля замаху на св. Яна Паўла II, аўтамабіль быў узмоцнены бранёй і спецыяльным куленепрабівальным шклом.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*



# Разважанні да Ларэтанскай літаніі



Св. Джон Генры Ньюмэн

## Марыя — Turris Davidica, Вежа Давідава

У сваёй базавай ідэі вежа – гэта збудаванне для абароны супраць ворагаў. Давід, кароль Ізраэля, пабудаваў для гэтай мэты выдатную вежу. Паколькі ж ён з'яўляецца правобразам нашага Пана, то і гэтая вежа сімвалізуе Дзеву-Маці нашага Пана.

Мы называем яе Вежай Давіда, таму што яна так выдатна выканала заданне абароны свайго Боскага Сына ад нападаў ворагаў. Тыя, хто не з'яўляецца каталікамі, прывыклі ўяўляць сабе, што пашана, якую мы аказваем Марыі, перашкаджае найвышэйшаму пакланенню, катораe мы аказваем нашаму Пану, што ў каталіцкім вучэнні Марыя засланяе Яго. Але гэта абсалютна супярэчыць праўдзе.

Бо калі хвала Марыі настолькі вялікая, то ці ж не будзе большай хвала Таго, Хто з'яўляецца Панам і Богам Марыі? Ён вышэйшы за сваю Маці, і ўся тая ласка, што напоўніла Яе, гэта не што іншае, як лішак і празмернасць Яго неспасцігальнай святасці. Гісторыя дае нам той жа ўрок. Паглядзіце на пратэстанцкія краіны, якія тры стагоддзі таму адкінулі ўсялякую пабожнасць да Яе з той адгаворкай, што выкінуць Яе з галавы – азначае павялічыць праслаўленне Яе Сына. Ці бачым мы, каб гэта насамрэч паследавала за іхнім ганебным стаўленнем да Яе? Зусім наадварот: Германія, Швейцарыя, Англія і іншыя краіны, якія так зрабілі, у вялікай ступені ўвогуле перасталі пакланяцца Яму і верыць у Ягоную боскасць, тады як Каталіцкі Касцёл, дзе б ён ні знаходзіўся, пакланяецца Хрысту як сапраўднаму Богу і сапраўднаму Чалавеку настолькі ж аддана, як і заўсёды. І сапраўды было б дзіўна, калі б адбывалася інакш. Такім чынам, Марыя з'яўляецца Вежай Давідавай.

## Марыя — Mater intemerata, Маці нявінная

Іншая думка, якая прывяла пабожныя розумы да пераканання, што Найсвяцейшая Дзева была ўзята на неба пасля смерці, не чакаючы агульнага ўваскрасення ў апошні дзень, паходзіць з вучэння пра яе Беззаганнае Зачацце.

Пад Беззаганным Зачаццем маецца на ўвазе не толькі тое, што Яна ніколі не здзейсніла думкай, словам і ўчынкам ніякага, нават штодзённага граху, але і тое, што віна Адама, якую мы называем першародным грахом, ніколі не была Яе віною, а датычылася толькі ўсіх іншых нашчадкаў Адама.

Пад Яе Унебаўзяццем маецца на ўвазе, што не толькі Яе душа, але таксама і цела было ўзята на неба пасля смерці, так што ў Яе выпадку не было доўгага перыяду сну ў магіле, як у выпадку іншых, нават самых вялікіх святых, якія чакаюць уваскрашэння цела да апошняга дня.

Адна з прычын, чаму мы верым ва Унебаўзяцце Найсвяцейшай Дзевы, заключаецца ў тым, што Яе Боскі Сын любіў Яе так моцна, што не дазволіў Яе целу заставацца ў магіле. Другая прычына – гэта тое, што Яна была не толькі дарагой нашаму Пану так, як маці можа быць дарагою для сына, але і была святою, перапоўненай ласкаю.

Адам і Ева былі створаны справядлівымі і бязгрэшнымі, і вельмі шмат Божай ласкі пралілося на іх. Як вынік, іхнія целы ніколі б не распаліся да праху, калі б яны не зграшылі. Менавіта тады Адаму было сказана: "Ты пылам ёсць і ў пыл вернешся". Калі Ева, прыгожая Божая дачка, ніколі б не сталася пылам і прахам, калі б не зграшыла, то ці не трэба было б сказаць, што Марыя, Якая не мела граху, захавала той дар, які Ева страціла з-за граху? Што зрабіла Марыя, каб страціць прывілей, дадзены ад пачатку Яе прабацькам? Ці павінна была Яе мілавіднасць перамяніцца ў распад, а Яе чыстае золата пацямнець без аніякай прычыны? Гэта немагчыма. Таму мы верым, што, хоць Яна і памерла на кароткі час, як памёр і наш Пан, аднак, як і Ён, Яна была ўзнята з труны ўсемагутнасцю Божай.

## Марыя — Rosa mystica, Ружа містычная

Марыя – гэта самая прыгожая кветка, якая хоць калі была ў духоўным свеце. Толькі дзякуючы магутнасці Божай ласцы на гэтай голай і кволай зямлі ўзрастаюць кветкі святасці і хвалы. Марыя ж з'яўляецца іх Каралевай. Яна – Каралева духоўных кветак, і таму Яе называюць Ружай, бо ружу справядліва лічаць самай прыгожай з усіх кветак.

Акрамя таго, Яна – Ружа містычная, або схаваная, бо «містычны» азначае «схаваны». Ці ж з'яўляецца Яна для нас больш "схаванай", чым іншыя святыя? Што азначае гэты выключны тытул, з дапамогай якога мы звяртаемся да Яе? Адказ на гэтае пытанне прыводзіць нас да трэцяй прычыны, чаму мы верым у тое, што Яе святое цела паўторна злучылася з душою і замест таго, каб прабываць у магіле ў чаканні агульнага ўваскрашэння ў апошні дзень, было ўзята на неба ў хуткім часе пасля смерці.

Адказ наступны: калі Яе цела не было ўзята на неба, то дзе яно? Як аказалася, што яно схаванае ад нас? Чаму мы не чуем, што Яе магіла тут або там? Чаму туды не ладзяцца пілігрымкі? Чаму няма Яе рэліквій, як у іншых святых? Ці не прымушае нас натуральны інстынкт адчуваць пашану да тых месцаў, дзе пахаваны нашы памерлыя? Вялікіх людзей мы хаваем з ушанаваннем. Св. Пётр кажа, што ў ягоныя дні ведалі пра магілу Давіда, хоць ён памёр шмат стагоддзяў таму. Калі цела нашага Пана было знята з Крыжа, яго паклалі ў годную магілу. Такі ж гонар перад тым быў аказаны св. Яну Хрысцілелю: св. Марк кажа пра ягоную магілу як пра агульнавядомае месца. З самых ранніх часоў хрысціяне з іншых краін прыходзілі ў Ерузалем, каб пабачыць святыя месцы. А калі час пераследу скончыўся, яны аказвалі яшчэ большую ўвагу целам святых, напрыклад, целам св. Стэфана, св. Марка, св. Барнабы, св. Пятра, св. Паўла і іншых апосталаў і мучанікаў. Іх пераносілі ў вялікія гарады, а часткі целаў дасылалі ў тое ці іншае месца. Такім чынам, з тых часоў аж да нашых характэрнай рысай Касцёла было самае пяшчотнае і паважлівае стаўленне да целаў святых. Але тады калі б да каго і было аказана найбольшае дбанне, то гэта да Найсвяцейшай Дзевы. Чаму мы тады не чуем нічога пра Яе цела або асобныя рэліквіі? Чаму тады Яна Ружа схаваная? Ці існуе верагоднасць, што тыя, хто з такой пашанай і дбайнасцю клапаціўся пра целы святых і мучанікаў, праявілі занядбанне ў адносінах да Яе цела – да цела Той, Хто з'яўляецца Каралевай мучанікаў і Каралевай усіх святых, да цела Той, Хто быў Маці нашага Пана? Гэта немагчыма. Чаму тады Яна Ружа схаваная? Проста таму, што Яе святое цела знаходзіцца не на зямлі, а ў небе.

*Крыніца: newmanreader.org*
*Пераклад: scriptoriumnostrum.wordpress.com*

# Біскупы Беларусі зацвердзілі пераклад новых заклікаў у Літаніі да Найсвяцейшай Панны Марыі

**Дэкрэт Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі аб зацвярджэнні новых заклікаў у Літанію да Найсвяцейшай Панны Марыі**

Ва ўспамін Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі, 20 чэрвеня, Папа Францішак дадаў у тэкст Літаніі да Найсвяцейшай Панны Марыі (Ларэтанскай) тры новыя заклікі: Mater misericordiae, Mater spei і Solacium migrantium.

Гэтым дэкрэтам Канферэнцыя Біскупаў зацвярджае пераклад на беларускую мову новых заклікаў, здзейснены Секцыяй па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла пры ККББ, з мэтаю іх літургічнага ўжытку.

Першы заклік – **«Маці міласэрнасці»** (Mater misericordiae) – дададзены ў літаніі пасля закліку «Маці Касцёла», другі – **«Маці надзеі»** (Mater spei) – пасля закліку «Маці ласкі Божай», і трэці – **«Палёгка мігрантаў»** (Solacium migrantium) – пасля закліку «Прытулак грэшных».

Мінск, 6 жніўня 2020 г.

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч**, *Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*

**Біскуп Юзаф Станеўскі**, *Генеральны сакратар ККББ*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Станіслаў Вышадка** *(Заварагы)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Зінаіда Алекснін** *(Браслаў)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Марыя Рагіня** *(Стары Двор)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Руткоўская І.К.** *(Радзюкі)*, **Тэрэза Каптур** *(Едлавічы)*, **Пракапенка П.П.** *(Рудні)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Пілецкая А.В.** *(Новалукомль)*, **Вікторыя Козей** *(Віцебск)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Кацярына Цатэвіч** *(Дзеравная)*, **Казімір Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Махальская Е.І.** *(Падсвілле)*, **Бенедзікта Баранава** *(Ашмяны)*, **парафіяне з Ёдаў**, **Ірына Грыцкевіч** *(Прыпернае)*, **Соф'я Рагіня** *(Сарокі)*, **Тэрэза Лешчык** *(Сарокі)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Рудзінская Р.А.** *(Яцкавічы)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Мар'ян Шляга** *(Драгічын)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **рух "Маргарытка"** *(Падсвілле)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **вернікі з** *Дуброўна*, **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Ганна Швед** *(Людвінава)*, **Дулінец Я.В.** *(Савуткі)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Эма Сціпанава** *(Сталіца)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Лілія Кароль** *(Ваўкавыск)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*. Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Пахвалёны Езус Хрыстус!

*21 жніўня* ***ксёндз Дзмітрый Рацько*** *адзначае Дзень нараджэння.*



*Няхай Бог адорвае Вас здароўем, пастырскай мудрасцю, дае мужнасць, цярплівасць і пакору.*

*Поспехаў Вам, кс. Дзмітрый, на Вашым святарскім шляху, Божага благаслаўлення, шчодрых дароў Духа Святога і апекі Маці Божай.*

***Вернікі парафіі Бласлаўлёнага Юрыя Матулевіча ў Ветрыне***

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

У гэтым нумары ты даведаешся пра Рут, жанчыну, якая паверыла ў сапраўднага Бога і пакінула свой родны дом, каб быць разам з маці свайго памерлага мужа, і разам з ёй пакланяцца адзінаму Госпаду. А яшчэ гэтая жанчына ўвашла ў радавод самаго Езуса Хрыста. Хто ж яна такая? Давай знаёміцца.

**Каб добра даведацца гісторыю Рут, а таксама правільна выканаць заданні, прачытай ў Біблії кнігу пад назвай “Рут”.**

## заданне №1

Пасля смерці свайго мужа Рут разам са сваёй свякроўю Наэмінью вярнуліся ў Бэтлеем

Дапамажы знайсці Рут і Наэмінь самы кароткі шлях да Бэтлеему.



## заданне №2

У Бэтлееме Рут працавала на полі Ваоза, збірала калоссе, якое засталося ад жняцоў. Знайдзі і палічы, колькі валошак расло на полі побач з калоссем ячменю.



## заданне №3

Калі Рут збірала калоссе на полі Ваоза, ён звярнуў на яе ўвагу і дазволіў працаваць на яго полі.

Паглядзі як гэта адбывалася і знайдзі адрозненні намалюнках.





## заданне №4

А ты ведаеш, што азначае імя Наэмінь? Калі разгадаеш рэбус, даведаешся адказ.




АДКАЗ: ____________________

## заданне №5

Ваоз узяў Рут сабе за жонку і ў іх нарадзілася дзіця . Размалюй згодна з колерам.





## Памаліся разам з бацькамі за нашу Айчыну

Госпадзе, прашу цябе за нашу Беларусь, за супакой і еднасць паміж людзьмі, аб міры і любові адзін да аднаго. Благаслаці нашу Бацькаўшчыну. Спашлі Духа Святога на слугаў Тваіх, якія кіруюць нашай краінай, каб яны згодна з Тваёю воляю маглі мудра і справядліва кіраваць давераным ім людам. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Праграма ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе



**21–22 жніўня ў Браславе адбудзецца штогадовая адпустовая ўрачыстасць у гонар Маці Божай Валадаркі Азёраў**

**Праграма ўрачыстасці:**

**Пятніца, 21 жніўня**

**18.30** – Ружанцовая малітва

**19.00** – Святая Імша

**20.00** – Вечар арганнай музыкі

Выканаўца: салістка канцэртнага зала Сафійскага сабора г. Полацка, заслужаная артыстка Беларусі Ксенія Пагарэлая

**Субота, 22 жніўня**

**08.30** – Святая Імша перад абразом Маці Божай

**09.30** – Ружанцовая малітва

**11.00** – Урачыстая святая Імша на палявым алтары

У сувязі з пандэміяй каранавірусу адмяняюцца ўсе пілігрымкі, а таксама начныя цэлебрацыі.

**Арганізацыйныя заўвагі:**

Вялікая просьба да вернікаў, якія хочуць падчас урачыстасці прыняць святую Камунію, загадзя прыступіць да споведзі ў сваіх парафіях.

Інтэнцыі на святыя Імшы, а таксама малітоўныя падзякі і просьбы да Маці Божай заахвочваем запісаць загадзя. Іх можна будзе пакінуць у касцёле.

Усіх, хто будзе ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях, просяць памятаць пра неабходнасць захавання сацыяльнай дыстанцыі і выкарыстання масак.

*Waladarka.by*

# Восем кандыдатаў да святарства залічаны ў семінарыю ў Гродне

**20 ліпеня і 10 жніўня ў будынку Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі ў Мінску праходзілі першы і другі туры ўступнага экзамену для кандыдатаў на першы год навучання ў Вышэйшых духоўных семінарыях у Гродне і Пінску.**

Экзаменацыйныя пытанні датычыліся Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, жыцця папскіх і мясцовага Касцёла, яго структуры з мэтай лепш ацаніць зацікаўленасць кандыдатаў тым, як жыве Касцёл.

Акрамя таго, кандыдатам трэба было растлумачыць матывы свайго выбару следаваць за Хрыстом, які кліча іх да служэння ў Яго аўчарні ў якасці святароў.

Пасля пісьмовай часткі экзамену будучыя семінарысты сустрэліся з адным з членаў камісіі на кваліфікацыйнай размове.

Экзаменацыйная камісія, праінфармаваўшы пра сваё рашэнне дыяцэзіяльных біскупаў, з чыіх дыяцэзій паходзяць кандыдаты, і атрымаўшы іх благаслаўленне і згоду, павядамляе, што новымі студэнтамі Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне сталі:

- шэсць кандыдатаў з Гродзенскай дыяцэзіі, якія паходзяць з Гродна, Ліды, Жалудка, Мураванай Ашмянкі і Вялікіх Эйсмантаў;
- адзін кандыдат з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, які паходзіць з Магілёва;
- адзін кандыдат з Віцебскай дыяцэзіі, які паходзіць з Глыбокага.

Усе людзі добрай волі заахвочваюцца да малітвы ў інтэнцыі новых семінарыстаў, а таксама аб новых і святых пакліканнях да святарства.

*catholic.by*




Экзаменацыйная камісія і кандыдаты па выніках першага туру



# Католікі Беларусі моляцца за Бацькаўшчыну

У беспрэцэдэнтна складанай грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне беларускія католікі атуляюць Бацькаўшчыну асаблівай малітвай, просячы Бога аб спыненні насілля.

Спантанныя малітвы адбываюцца ў розных мясцінах нашай краіны, многія касцёлы застаюцца адчыненымі ўдзень і ўначы.

Храм з'яўляецца тым месцам, дзе кожны можа знайсці прытулак і ніхто не мае права падняць руку на брата.

Да трывалай малітвы аб міры і згодзе ў нашай краіне заклікае ўсіх людзей добрай волі Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Сэрцам малітвы за Беларусь з'яўляецца Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай.

Штодзённа перад цудадзейным абразом Каралевы Беларусі ўзносяцца малітвы аб хутчэйшым пераадоленні крызісу ў грамадстве і спыненні насілля.

Малітоўную ініцыятыву падтрымліваюць вернікі ў сталічных касцёлах, сярод якіх катэдральны касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі на плошчы Свабоды, касцёл святога Сымона і святой Алены на плошчы Незалежнасці (Чырвоны касцёл), касцёл Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха) на Залатой Горцы паміж плошчай Перамогі і плошчай Якуба Коласа.

Асаблівае набажэнства за Беларусь адбываецца ў грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай у Гродне кожны дзень а 18-ій гадзіне.

Пробашч парафіі святога Язафата Кунцэвіча ў Расонах ксёндз Вячаслаў Барок штодзённа цэлебруе святую Імшу за Беларусь.

Маліцца за Бацькаўшчыну сёння маральна абавязаны кожны вернік, а найбольш адпаведным месцам малітвы з'яўляецца святыня, храм.

Чым больш малітваў да Найвышэйшага будзе ўзносіцца на святых месцах са шчырых сэрцаў і вуснаў, тым мацнейшая наша надзея на тое, што Бог іх выслухае і адорыць Беларусь і яе народ мірам і згодай.

У сувязі са складанай эпідэміялагічнай сітуацыяй, у касцёлах неабходна захоўваць адпаведныя санітарныя прадпісанні.

*catholic.by*



**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – Б; 2 – Б; 3 – В; 4 – А; 5 – А; 6 – В; 7 – А; 8 – В; 9 – В; 10 – А

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 3926
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 13.08.2020 г. у 09.00
**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь